
Юбіляркі з Дабрывады→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Жыве музей→4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 26 (2981) Год LVIII | Беласток, 30 чэрвеня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Сустрэчы „Зоркі” ў гонар Тамары Саланевіч

**Беларуская публіцыстыка ўзбагацілася на дзве новыя газеткі, якія цягам тыдня стварaліся на ўскраіне Белавежскай пушчы і былі рэзультатам працы ўдзельнікаў XXVII Сустрэч „Зоркі”, прысвечаных выдатнай падляшскай рэжысёрцы Тамары Саланевіч. У выніку паўстала шмат тэкстаў, з якіх можна пазнаць погляды вучняў на сучасныя тэмы, якія кранаюць беларусаў Падляшша.**

Ад некалькіх гадоў Сустрэчы „Зоркі” праходзяць у Новым Ляўкове. Дзеткі прыязджаюць сюды выпрабаваць сябе ў ролі журналістаў. Яны не толькі маюць метафізічную падтрымку з боку спрадвечнай Белавежскай пушчы, але таксама фізічную ад спадарства Казлоўскіх — уладальнікаў аграгаспадаркі „Бора-Здруй”. Насуперак гэтаму, што гаворыцца аб сучаснай моладзі, ніхто не сумаваў па камп’ютарах ці тэлебачанні. Камп’ютарныя гульні ды анімацыйныя фільмы маладыя журналісты замянілі на цацкі, якія знаходзіліся на дзіцячай пляцоўцы, зробеныя майстрам на ўсе рукі Барысам Казлоўскім. На самой справе выдуманых спаборніцтваў, якія можна ладзіць карыстаючыся згаданымі цацкамі, не ведае ніводная камп’ютарная гульня. Варта адзначыць, што спадар Барыс усё робіць паводле старадаўніх рэцэптаў і з натуральных матэрыялаў. Напрыклад, конь, адзін з элементаў упрыгожання агародчыка, Барыс зрабіў з лазовых галінак. Гэты звярок быў улюбёнцам Мішкі, які ўпершыню прыехаў на Сустрэчы „Зоркі”. Апрача таго на дзіцячай пляцоўцы знаходзіліся гушкалкі, хадулі і шмат іншых прылад, якія цяжка назваць. Была там нават калясніца. Менавіта на гэтай калясніцы пасля цяжкай інтэлектуальнай працы гулялі Клаўдзія з Оляй. На шчасце ніводная з іх не аказалася дэспатам і калі на адмысловым вазку ехала Клаўдзія, а цягнула яе Оля, пасля некалькіх хвілін дзяўчынкі мяняліся ролямі.

Ужо пасля першага дня маладым журналістам скончыліся ласункі. Найбольш пажаданым прадуктам былі жэле. Найбліжэйшы магазін знаходзіўся кіламетры тры ад пансіёна. Справа вырашылася сама, калі ў час экскурсіі ў Навасады Міхалоўскай гміны, традыцыйна на трактары з фурманкай, дзеці праязджалі праз вёсачку з магазінам. Тут усе маглі задаволіць свае капрызы. Кулінарныя капрызы юных журналістаў заўсёды мела на ўвазе Людміла Казлоўская — гаспадыня асяродка „Бора-Здруй”. Яна рыхтавала ежу заўсёды пасля кансультацыі з дзяцьмі. Таму і ў гэтым годзе ў газетках шмат тэкстаў і рэцэптаў на такія ласункі як гарбузны суп ці блінчыкі.

Аднак трэба адзначыць, што Сустрэчы „Зоркі” — гэта ў асноўным навука і праца. Сёлета ўзніклі дзве рэдакцыі: Паўліны Ваўранюк і Наталлі Васько. Многіх, у тым ліку патрабавальную настаўніцу са шматгадовым вопытам Валянціну Бабулевіч, здзіўляў энтузіязм і адказны падыход дзяцей да працы. Некаторыя з іх нават на хвіліну не расставаліся з маленькімі сшыткамі, якія падаравала ім „Зорка” на першым рэдакцыйным пасяджэнні. У сшытку Вікторыі пад канец Сустрэч засталося зусім няшмнога незапісаных картачак, чым дзяўчынка ганарылася.

У час тыднёвых майстар-класаў адбылося многа сустрэч з людзьмі, якія мелі дачыненне да асобы Тамары Саланевіч або з такімі, якія асабіста яе ведалі. Адгэтуль і загаловак адной з газетак — „Людзі Тамары Саланевіч”. Маладыя журналісты пасля сустрэчы з Кацярынай Бяляўскай (суседкай Тамары Саланевіч) многа чаго даведаліся аб знешнім выглядзе рэжысёркі. На аснове расказаў спадарыні Касі ўзніклі партрэты прыгажуні з чорнымі валасамі. Найбольш партрэтаў у газеце другой рэдакцыі пад загалоўкам „Галерэя Тамары Саланевіч”. Кожная сустрэча ці паездка ў месцы, звязаныя з нараўчанскай рэжысёркай, уплывала на канчатковы выгляд тэкстаў і малюнкаў у газетках. Дзеці былі пад уражаннем мужнасці Альжбеты Раеўскай-Нікановіч (галоўнай гераіні фільма „Крэсавая балада”), якой у час здымання аднаго з эпізодаў трэба было пацалаваць хлопца, якога яна не любіла. Дзеці былі таксама здзіўлены сваяцтвам паэтэсы Міры Лукшы з фільмавай знахаркай з „Крэсавай балады”. Ад Аліцыі Петручук даведаліся як цяжкім жанрам з’яўляецца рэпартаж. Вялікае ўражанне на маладых журналістах зрабіў Цэзары Галінскі. Дзяўчаты, апісваючы паездку ў Навасады, дзе пабываў Чарак Галінскі, былі ўпэўнены, што правільная форма яго імя будзе гучаць „Чараслаў”. Аздабленні газетак — вынік сустрэчы з арт-дызайнерам Дыянай Нахіла, якая адкрыла перад маладымі журналістамі свет сімвалаў. Дзецям спадабалася таксама зялёная майка з надпісам „Вясна” і пунктуальнасць рэдактара „Нівы” Яўгена Вапы, які, паводле вылічэння Клаўдзіі, свой даклад правёў на працягу 1 гадзіны і 15 хвілін.

Завяршыліся XXVII Сустрэчы „Зоркі”. На шчасце ідэя Сустрэч такая, каб кожны, каго не было разам з дзяцьмі, мог усяго даведацца са старонак „Зоркі”.

Сустрэчы „Зоркі” адбыліся дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі.

**Уршуля ШУБЗДА**


Фота Ганны Кандрацюк

Малітва на магіле Тамары Саланевіч у Міхалове


Фота Хрыстафора Ангельчыка


Фота Ганны Кандрацюк

Каля дома Тамары Саланевіч у Нараўцы





# Адно з двух

Зараз у Беларусі праводзіцца вельмі шмат навучанняў ды семінараў для журналістаў. Прычым і для тых, хто працуе на дзяржаўных СМІ, і для тых, каго туды працаўладкоўваць лічаць немэтазгодным. І што самае дзіўнае, і там і там, гавораць прыкладна пра адно і тое ж: пра аб'ектыўнасць як рознабаковую падачу інфармацыі ды незалежнасць сваёй прафесіі. Толькі слова „праўдзівасць" увогуле не гучыць. Такое складваецца ўражанне, што людзі не арыентуюцца, у якім грамадстве яны знаходзяцца ў той момант, калі выконваюць свае прафесійныя абавязкі. Самае страшнае, што многія ўжо панятак „самацэнзура" ўспрымаюць як station ўчую з'яву. І самацэнзуру робяць сінонімам разважлівасці, рознабаковасці інфармацыі і аб'ектыўнасці.

Сродкі масавай інфармацыі людзі па праве ў дэмакратычным грамадстве, і памылкова ў недэмакратычным, называюць чацвёртай уладай. Як сцвярджае „Вікіпедыя", гэтае словазлучэнне вызначае і саму прэсу, і яе ўплыў у соцыуме. Існуе меркаванне, што журналісты валодаюць вялікай уладай у грамадстве і ўсведамленне гэтай улады павінна спалучацца з пачуццём абавязку перад чытачом. Менавіта гэтым, ды высокім узроўнем дакладнасці і бесстароннасці, а таксама дзякуючы захаванню рупліўцамі пяра правілаў сумленнай гульні, ва ўсе часы яны дамагаліся прызнання і права быць чацвёртай уладай у тым грамадстве, дзе ўжо тры першыя ўлады ёсць.

У краінах, дзе першыя тры ўлады існуюць толькі на паперы, а рэальна ўладарыць толькі адна, журналісты таксама існуюць. Яны ёсць у манархіях і дыктатурах, у аўтарытарных і таталітарных рэжымах і нават у такіх, з назвай якіх не вызначыліся яшчэ ні самыя рэжымы, ні тыя, хто пра іх піша. Толькі там, дзе тры ўлады зліліся ў адну, першую, журналістыка аніяк не можа быць чацвёртай. Арыфметыка не дазваляе. Ды не толькі арыфметыка. Таму там пісаку трэба выбраць адно з двух. Першае — стаць рупарам дзяржаўнай прапаганды, хваліць уладу і прыдумваць фармулёўкі яе абранасці і прадвызначанасці адзіна правільнага яе шляху, або другое — патрапіць у спіс ворагаў, пятай калоны, прадажных журналістаў, у змаганні з якімі ўлада прыдумвае ўсё новыя каральныя артыкулы, хоць можа лёгка расправіцца з гэтымі пісакамі і без існавання тых артыкулаў.

З першай катэгорыяй акул слова нібыта ўсё зразумела. Іх не асабліва прымае чытач, і з агідай цярпіць улада, хоць і корміць. Гэта толькі яны самі так думаюць, што патрэбныя ўладзе. Насамрэч улада і без іх можа сябе хваліць, бо мае і прэс-сакратароў, і іншыя службы. Адносіны да іх вельмі добра раскрывае стары савецкі анекдот, у якім Сталіну сказалі, што знакаміты журналіст, які ўжо раней напісаў хвалебныя артыкулы „Дзяцінства важака" і „Юнацтва важака", зараз просіць дазволу напісаць матэрыял „Жыццё важака". Сталін спытаўся, якія ўзнагароды мае той дзеяч і як яго адарылі матэрыяльна. Высветлілася, што таму далі ўсе мажлівыя прэміі і званні, а таксама кватэры, лецішчы, машыну з шафёрам і цудоўны заробак. Пачуўшы гэта раз'юшаны Сталін выкрыкнуў: „Дык што ж гэты ілжывы хапуга яшчэ ад мяне хоча?!"

Больш складана разабрацца з некаторымі (не з усімі, канешне ж) журналістамі з другой катэгорыі, якая мае трывалыя веды і перакананні, што журналістыка мусіць быць апазіцыйнай да кожнай улады. Якую ж многія з іх шукаюць рознабаковасць падачы інфармацыі, калі можна проста сказаць дакладна вядомую праўду, а не заблытваць дэмагогіяй ні чытача, ні сябе. Гэта там, прыкладам, дзе рэальна існуе незалежная судовая ўлада журналіст не мае права рабіць высновы за яе. А што рабіць, калі такой у дадзены момант і ў канкрэтным месцы няма? Хто праінфармуе грамадства пра рэальны стан рэчаў? Дакладна не той, хто, прыкрываючыся паняткам аб'ектыўнасці, насамрэч хавае баязлівасць і займаецца самацэнзурай, і пры гэтым з гонарам адносіць сябе да незалежнай журналістыкі. Бо ў сістэме далёкай ад дэмакратычных каштоўнасцей, журналісцкім сінонімам слова „аб'ектыўнасць" не з'яўляецца слова „рознабаковасць", а толькі слова „праўдзівасць". Бо сама сістэма не дае журналісту трэцяга выбару. Толькі адно з двух.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Адна як тысячы страчаных ног



Будучы прыхільнікам салёнай, начасныччанай, пасыпанай перцам і маяранам саланіны, у мяне заўсёды ёсць яе маленькі запасік. Рэжу яе на тонкія лустачкі і пад'яддаю з хлебам і цыбуляй. Таемна і ўначы. Удзень дык не, бо нейкі госць пераступіў бы парог маёй хаціны і трэба было б яго пачаставаць. Інакш непрыстойна. Гэта стандартны нораў у маёй праваслаўна-каталіцкай вёсцы. А тут яшчэ хопіць, што ён сам па неасцярожнасці ўрэжа яе на два або тры сантыметры таўшчыні, а яшчэ і прысаромціць папрокамі, што я ў таямніцы ад яго купіў саланінку. На табе! Грош, калі ёсць у мяне які, пазычу, не міргнуўшы вокам. Падзялюся напалову сваёй апошняй цыгарэтай. Кнігу, калі хтосьці папросіць, дам пачытаць, хаця пакутую пасля гледзячы на шчарбатыя паліцы хатняй бібліятэкі. Толькі ў адным выпадку маё сэрца жорсткае — саланінку жару эгаістычна. Я так люблю яе! Тым не менш, яна павінна быць адпаведнай таўшчыні, добра абсмаленая і абскрэбеная ад гару. Тады яна мае адпаведную прэзенцыю і, не саромеюся сказаць, адчувальную харызму. Не кажучы ўжо пра тое, што толькі такім чынам можна выявіць яе сапраўдны характар проста з падляшскай вёскі: рашуча замкнутая ў сабе смакамі, але таксама адкрытая для кампаніі — і зялёнай цыбулькі ці зелля пятрушкі, або бульбяной таўканічкі ці жытняга хлеба. Прыгожа братаецца з морапрадуктамі, што зачынілі ў сабе салодка-млявы пах, а калі сасквырыць іх на золата, абкапаць ад лішняга тлушчу, дык зробіць з іх карону смаку. У любым выпадку, кошт такой СПА-працэдуры, якая фундуецца ёй у дыме з саломы і салоным балотцы, не шкадуючы ёй масажаў і націрання духмянымі спецыямі, вяртаецца ў час дэгустацыі. Толькі гэта не так проста сёння купіць такую саланіну. Але ад чаго маецца сяброў-інфарматараў, раскіданых па ўсёй Нарваўскай гміне? Адзін пусціць прыемны даносік праз інтэрнэт, іншы патэлефануе, другі і трэці асабіста нашэпча ў вуха, дзе і ў каго я магу яе дамагчыся. Дамагчыся, так, дарагія чытачы! Такая саланіна ў наш час стала каштоўнасцю самой па сабе. Што трэба цяпер і напрасіцца, наабяцаць яе ўласніку, каб састуліў хоць паўкуса гэтага цуду! Не разлічыш цаной, хоць пытанне «колькі» змяшчае столькі захапляльных пытальных знакаў, колькі клічнікаў уключае ў сябе яго важкі адказ. На тры пальцы таўшчынёй! У чатыры, у пяць... Ах, Божа мой, на пяць... З'есці такую, закусіць цыбулькай, а пасля зацягнуцца дымком цыгарэткі — гэта ж райская асалода. Толькі што такая раскоша, ужываная без памяркоўнасці, смяротна небяспечная.

У Польшчы ўсё павялічваецца колькасць ампутацый ног. Часта з-за адмаўлення ад адпаведных абследаванняў. А гэта як быццам нагу выкідваць у гразь. Прычына ў ішэміі ў выніку нялечанага дыябету. Пагражае яна людзям сталага веку, ядучым тлуста, малаактыўным фізічна і курцам. На жаль, усё больш і больш людзей у сярэднім узросце гэтым хварэе. Мой знаёмы і аднагодак з суседняй вёскі, таксама аматар саланіны і гарачы курэц, скардзіўся на працягу некалькіх гадоў на частыя задышкі, ацёкі і болі ў нагах. Таксама адкрываліся на іх доўга незагойныя раны, праўда, не вельмі балючыя, таму ён адмаўляўся ад медыцынскай кансультацыі. „Гэта самая небяспечная з'ява ў нялечаных хворых цукровым дыябетам. Даходзіць у іх да неўрапатыі, то-бок, расстройстваў у адчуванні болю, — кажа прафесар Кшыштаф Строек, дзяржкансультант у галіне дыябету. — Раны іх не турбуюць, нават калі не гояцца, таму што не баляць. Не ачышчаюць іх, і з часам даходзіць да некрозу".

Па дадзеных Нацыянальнага фонду аховы здароўя, у Польшчы штогод распазнаюць сімптомы хранічнай ішэміі ніжніх канечнасцей у 40 тысяч пацыентаў. Дзевяцю тысячам з іх прыйдзецца ампутаваць нагу. Лік хворых не ведаючых пра хваробу невядомы. Мяркуецца, аднак, што ёсць іх некалькі тысяч. Да нядаўняга часу да гэтай групы людзей належаў мой знаёмы. Нарэшце апынуўся ён у бальніцы. Выйшаў з яе без старонняй дапамогі, але без паловы ступака. Зараз шмат рухаецца, што паляпшае кровазварот і зніжае рызыку развіцця атэрасклерозу. Праўда, крыху накульгвае, але калі адставіў у кут чобаты, цяпер у лёгкім і прасторным абутку — здаецца, што ляціць балярынай. Саланінкі пазбягае. Цыгарэты заманіў зялёнай цыбулькай і радыскай. Часам толькі звоніць мне і крычыць у тэлефон: „Ратуй нагу! Абследуй сябе наконт цукровай хваробы! Многа варушыся! Не жары сала! Кінь курыць!". Ой, як ён гучна верашчыць! Але ж нагі шкода.

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Процівддзе: ці грыль, ці канцэрт?



З верасня пачнецца ў Беластоку пілатажная праграма па барацьбе з расізмам і ксенафобіяй. Як было абвешчана нядаўна ў Беластоку кіраўніком Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі Міхалам Боні, справа ў тым, каб шляхам інтэграцыі насельніцтва працаваць у напрамку эфектыўнага рэагавання ў выпадку актаў неталерантнасці. У падляшскай сталіцы міністр прыняў удзел у пасяджэнні спецыяльнай групы, якая была створана пры ваяводзе пасля серыі інцыдэнтаў расісцкага характару (падпалы жылля замежнікаў). Яна ўключае ў сябе м.інш. паліцыянтаў, памежнікаў, пракурораў. Падчас прэс-канферэнцыі міністр заявіў:

— З аднаго боку, неабходная каардынацыя розных службаў, адказных за расследаванне гэтых злачынстваў, і маніторынг злачынных асяроддзяў. З іншага боку, мы павінны працаваць сярод людзей, сярод насельніцтва. Нам неабходна развіваць у іх пачуццё, што яны — абшчына, каб — калі зноў могуць адбыцца адмоўныя здарэнні — маглі сказаць ім «стоп».

Як неаднаразова паведамлялі мясцовыя сродкі масавай інфармацыі, у рамках праграмы, першапачаткова ў двух беластоцкіх мікрараёнах, дзе назіраліся апошнія інцыдэнты на расісцкай глебе (на Зялёных пагорках і Лясной даліне), ад верасня будуць прыняты дзеянні па інтэграцыі, нават з... агульным грыляваннем, каб — як сказаў Міхал Боні — жыхары маглі бліжэй пазнаёміцца, каб сфармаваць у іх пачуццё, што яны з'яўляюцца супольнасцю. Кіраўнік МАіЛ заявіў, што ён перакананы, што ў гэтых мікрараёнах жывуць добрыя людзі, але важна, каб у момант, калі справа даходзіць да праяваў расізму, яны ведалі, як рэагаваць:

— Для таго, каб гэта прытармазіць, спыніць, патрэбнае адкрытае грамадскае стаўленне. Для дасягнення гэтай мэты неабходнае пачуццё таго, што з'яўляемся супольнасцю і такія дзеянні, фармуючыя гэтыя абшчыны, будзем ствараць.

Падчас прэс-канферэнцыі ваявода Мацей Жыўна пералічыў абшары дзеяння групы па справах супрацьдзеяння актам расізму і ксенафобіі:

— Па-першае, гэта павышэнне бяспекі, аператыўна-вышуковая дзейнасць і прафілактычныя меры, прыманыя адпаведнымі службамі. Па-другое, паляпшэнне абмену інфармацыяй паміж самімі чужаземцамі і ўстановамі, у тым ліку больш актыўнае супрацоўніцтва з няўрадавымі арганізацыямі і навучальнымі ўстановамі. Па-трэцяе, адукацыя, значыць, праграмы, такія як „Разнастайнае адзінства" (адукацыйная праграма пад эгідай ваяводы — М. Х.), накіраваныя да наймалодшых. І, нарэшце, арганізацыя мясцовых супольнасцей, таму што калі яны будуць добра арганізаваныя, будуць адэкватна рэагаваць на розныя пагрозы.

Пры рэалізацыі праграмы будуць супрацоўнічаць ведамствы ўнутраных спраў, працы і сацыяльнай палітыкі ды адміністрацыі і лічбавізацыі. Яшчэ сёлета ведамства міністра Боні перадасць на гэтую справу 200 000 злотых. Цалкам магчыма, што праграма будзе распаўсюджана на ўвесь Беласток. Між тым, якраз тут, 30 чэрвеня адбудзецца канцэрт „Беласток для талерантнасці", які — як было абвешчана яе ініцыятарамі, гарадскімі раднымі — мае быць супрацівам праявам гвалту, неталерантнасці і расізму. Будзе ён праходзіць пад эгідай Вярхоўнага камісара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па справах бежанцаў. Выступяць у асноўным беластоцкія выканаўцы (здаецца, не меншасныя?).

— Канцэрт мае паказаць, якім на самой справе з'яўляецца Беласток, — паведаміў журналістам прэзідэнт Тадэвуш Трускаляскі.

Такім чынам канцэрт мае паказаць, што Беласток з'яўляецца горадам талерантным і адкрытым. Толькі ці такі канцэрт вырашыць праблему, якая існуе і тут.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

## Велапрабег праз пушчу

Таварыства „Стакротка" ў Палічнай разгортвае сваю дзейнасць. У гэтым годзе прыдбала яно 10 тыс. зл. ад фонду, які падтрымлівае грамадзянскія ініцытывы ў Падляшскім ваяводстве. Праект пад назвай „Дзве гміны адна мэта" таварыства пачало рэалізаваць з велапрабегу па маршруце Курашава — Тапіла. Мерапрыемства праходзіла 16 чэрвеня па пушчанскім турыстычным шляху. Удзельнічаў у ім 31 велагоншчык рознага ўзросту. На Тапіле арганізавалі вогнішча. Асноўная мэта праекта зводзіцца да інтэграцыі і пабуджэння лакальнай грамадскасці да



Фота Аліны Зазулінскай

супольных дзеянняў шляхам азнаямлення і замацоўвання культурных і рэлігійных традыцый Падляшша. Задача будзе выконваца ў гмінах Кляшчэлі і Дубічы-Царкоўныя ў дзвюх узроставых групах: моладзі і старэйшых. У планах — збіранне матэрыялу датычнага рэлігійных традыцый, арганізаванне катання на фурманках, увянчэннем якога будзе вогнішча, інтэграцыйна-пазнаўчая паездка ў Крушыняны і наведванне мячэці, майстар-класы па рэлігійных традыцыях у святліцы ў Палічанай, выкананне выніковай прэзентацыі праекта, затым заканчэнне праекта з улікам яго вынікаў у святліцы ў Палічнай. Прадбачваны тэрмін заканчэння праекта — канец жніўня.

**(ус)**

## Рамантуюць дарогу ў Елянку

Фірма «Унібэп» з Бельска-Падляшскага пачала перабудоўваць дарогу з Гайнаўкі ў Елянку (Гайнаўскі павет). Новая маставаая будзе пашырана да сямі метраў на 21-кіламетровым адрэзку. Перабудаваныя будуць таксама скрыжаванні гэтай шашы з менш важнымі дарогамі. Там, дзе ёсць прыпынкі аўтобусаў ПКС і г.зв. «затокі», маставаая будзе яшчэ больш шырокая. Менш будзе небяспечных крутых паваротаў. Новая дарога абміне Елянку (цяпер яна вядзе цераз сярэдзіну вёскі). На некаторых яе адрэзках будуць пабудаваныя тратуары і сцяжынка для веласіпедыстаў, вулічнае электраасвятленне ды дажджавая каналізацыя.

Варта дадаць, што гэтая дарога знаходзіцца на шляху з Варшавы ў Белавежу. Сюдой ездзяць турысты ў Белавежскую пушчу. Тут даволі вялікі рух аўтамабіляў.

На мадэрнізацыю вышэйзгаданай артэрыі інвестар — Падляшскае праўленне ваяводскіх дарог у Беластоку — прызначыў 72 мільёны злотых з еўрасаюзнай дапамогі.

**(яц)**

# КУЛЬТУРА НА МУЗЕЙНЫХ СХОДАХ

Сёлета, як і ў мінулым годзе, у Гайнаўцы ў чэрвені быў арганізаваны Беларускі этнаграфічны фестываль «Культура на музейных сходах». Выступілі беларускія калектывы, якія паказаліся шматлікай публіцы на вялікай сцэне, зробленай на прымузейнай плошчы. Даўнія рамёствы паказвалі вопытныя майстры, якія займаліся імі ў мінулым і цяпер. Старэйшым сталым наведвальнікам ужо можа і менш цікава было хадзіць паміж станкамі рукадзельнікаў і глядзець, як яны працуюць, але малодшым, асабліва дзеткам, цікава было паглядзець працу рамеснікаў. Наймалодшыя прабавалі ляпіць з гліны гаршчочкі, ткаць палавік — гэтыя ўмеласці здабывалі яны ў рамках этнаграфічных майстар-класаў. На фестывальнай плошчы можна было купіць беларускую літаратуру і вырабы рукадзелля.

Перад публікай з сучаснымі беларускімі творамі выступілі Марыя Савіцкая, Кася Дружба і Караліна Мірэк са Студыі эстраднай песні Гайнаўскага дома культуры, якую курыруе Марта Грэдаль-Іванюк. Дзяўчаты ўдала паказалі сваё вакальнае майстэрства і зацікавілі публіку новымі песнямі. Выпускнікі Гайнаўскага белліцэя паспяхова выступілі ў вакальна-інструментальных калектывах „Метро" з Гайнаўкі і „Арт-Пронар" з Нарвы, якія расслаўляюць беларускую песню ў час публічных і прыватных мерапрыемстваў. „Арт-Пронар" перамагаў на фестывалі „Беларуская песня" і таму ў яго склалася ўжо свая публіка, якая ходзіць на мерапрыемствы дзеля гэтага гурту. Калектывы „Нарва" з Нарвы, „Dekada Band" і „Гай" з Беластока (лаўрэат сёлетняй „Беларускай песні") перш за ўсё стараліся зацікавіць публіку эстраднай музыкай, лёгкай для слухання і прызнаванай як старэйшай, так і малодшай публікай. Зоркай сёлетняга фестывалю быў гурт сярэднявечнай беларускай музыкі „Стары Ольса" з Мінска.

— Мы прапануем публіцы разнародную беларускую музыку, паколькі ў нашым фестывалі ўдзельнічаюць дзеткі, моладзь, асобы сярэдняга і сталага ўзросту. Хочам, каб усе ўчулі нешта для іх цікавае і займальнае. Апошнім часам стараемся, каб кожны год запрэзентавалася ў нас зорка. У гэтым годзе з'яўляецца ёю гурт „Стары Ольса", — сказаў Тамаш Ціханюк, дырэктар Гайнаўскага белмузея.

— Калектыў „Стары Ольса", гэта асаблівы гурт. У яго рэпертуары — беларускія фальклорныя балады і вайсковыя песні, творы беларускіх кампазітараў перыяду рэнесансу, мелодыі перыяду сярэднявечча, — паінфармавала Агнешка Ціханюк з белмузея.

Мікола Шыманюк з Гайнаўкі непадалёк ад сцэны стругаў лыжкі з драўніны. Спыняліся каля яго дзеткі з бацькамі або бабулямі, каб паглядзець працу народнага рамесніка-разьбяра. Жанчынам спадабаліся драўляныя вырабы.

— У мінулым я выконваў многа прадметаў з драўніны, якія здаваў у «Цэпэлію» і добры прыбытак быў ад гэтага. Зараз мае вырабы купляюць уласнікі гандлёвых



Мікола Шыманюк з Гайнаўкі стругаў драўляныя лыжкі



Дзеткі вучыліся ткаць пад наглядам Ірэны Ігнацюк з Ляўкова



Маладыя асобы выконвалі гаршчочкі з гліны з дапамогай Міраслава Пяхоўскага



Увесь час стаяла чарга за бульбянымі дранікамі

суполак, якія перапрадаюць іх за мяжу. Мне плацяць вельмі мала і таму мой занятак — малапрыбытковы. Раблю перш за ўсё драўляныя лыжкі і невялічкія начоўкі, якія выкарыстоўваюць у лазнях. Магу выстругаць іншыя прадметы, толькі што зараз яны незапатрабаваныя, — заявіў сумным голасам Мікола Шыманюк.

Вырабы іншых рамеснікаў цяпер таксама не даюць прыбытку. Аднак Ірэна Ігнацюк з Ляўкова не здаецца і надалей займаецца ткацтвам.

— Я паказваю як ткаць палавікі, бо гэта робіца даволі проста і нават наймалодшыя могуць навучыцца гэтаму занятку. Дома я яшчэ тку ільняныя дэкаратыўныя вырабы, а ільняныя ніткі збіраю ў людзей, у якіх яны яшчэ захаваліся. Гэта вельмі складаны занятак, але ільняныя тканіны вельмі прыгожыя і практычныя, — сказала Ірэна Ігнацюк, побач якой цесніліся дзеткі, якія хацелі паспрабаваць ткаць палавік.

Малгажата Краўчык з Пляньты вяжа кручком і вышывае. Побач белмузея прэзентавала яна свае вырабы і паказвала маладым дзяўчатам, як яны паўстаюць. Увагу сабраных прыцягнулі прыгожыя карункавыя і вышываныя вырабы і сама праца народнай мастачкі. Аднак выдатная большасць сабраных заняла сядзячыя месцы насупраць сцэны і з увагай слухала беларускія песні, дзеткі кружыліся і скакалі пад гукі музыкі. Мужчыны, якіх многа стаяла непадалёк ад варштатаў народных рамеснікаў, падыходзілі да станка ганчара Міраслава Пяхоўскага з Чорнай-Вёскі-Касцельнай, які вучыў выконваць гаршкі з гліны. Маладыя асобы на ганчарскім коле выконвалі прыгожыя вырабы. Назіралі за імі перш за ўсё іх сямейнікі. Дзве жанчыны прыйшлі на мерапрыемства разам з унучкамі і тыя выканалі невялікія гаршчочкі. Бабулі асцярожна насілі іх у руках, чакаючы покі засохне гліна. Міраслаў Пяхоўскі патлумачыў мне, што часта бывае на народных фэстах і ведае, як дапамагчы дзеткам выконваць гліняныя вырабы. Прапанаваў ён купляць разнародныя гліняныя гаршкі і збанкі, у тым ліку традыцыйныя сівакі.

— Я выконваю разнародныя гліняныя вырабы, а пасля выпальваю іх рознай тэхнікай. Некаторыя пазней малюю, але самыя цікавыя вырабы — выкананыя ў натуральных колерах, якія фармуюцца ў час выпальвання гаршкоў ці збанкоў, — сказаў Міраслаў Пяхоўскі.

Многа людзей стаяла побач месца, дзе дзве дзяўчыны пяклі бульбяныя дранікі. Стараліся яны рабіць гэта як мага найхутчэй, але і так чарга ахвотных з'есці беларускую народную страву не знікала. У гэтым годзе на фестывалі паявіліся таксама бутэрброды з салам і каўбасой. Сёлета, так як і ў мінулых гадах, беларускія народныя вырабы, перш за ўсё вышыўку, прадавалі жанчыны з Брэста, з клуба „Творчасць", якія з Беларусі прывозяць таксама вышытую на заказ паводле традыцыйных узораў вопратку. Цяпер можна заказаць таксама і ў нашых творцаў з Падляшша кашулі з традыцыйнымі матывамі з Бельшчыны ці Гайнаўшчыны і такімі ўборамі карыстаюцца дзяўчаты і хлопцы з калектыву «Жэмэрва» са Студзіводаў. У час мерапрыемства бацькі куплялі сваім дзеткам ласункі і цацкі. Можна было купіць мастацкія працы Данеля Грамацкага. Людзі збіраліся таксама побач палаткі, у якой працаўнікі белмузея прадавалі беларускія кніжныя і музычныя выданні і прадметы рукадзелля.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Культурная прастора Крынак вачамі Альжбеты Чарэмхі

Больш за дзесяць гадоў абавязкі дырэктара Гміннага асяродка культуры ў Крынках выконвае Альжбета Чарэмха.

**— Спадарыня Альжбета, раскажыце як пачалося Ваша сяброўства з культурай.**

— Яшчэ ў гады вучобы я рыхтавала і выступала на ўсяляких школьных мерапрыемствах. Заўсёды мне гэта нядрэнна атрымлівалася. Здавён-даўна я таксама спявала ў школьных і касцельных харах. Па сёння падтрымліваю сваім голасам наш мясцовы хор пенсіянераў „Погодна есень” і крыху маладзейшыя спявачкі з калектыву „Экзіт”. Пасля завяршэння адукацыі мне прыйшлося выбіраць паміж працай у школьніцтве і ў культуры. Такім чынам я трапіла ў Крынскі асяродак культуры.



**— Ці у Вашай сям’і нехта таксама праяўляў зацікаўленне гэтай стараной жыцця?**

— Мая бабуля, Аляксандра Калінская, якую звалі Алютай альбо Сашкай, была акцёркай. Яна нарадзілася ў 1910 годзе ў Крынках. З аповедаў мамы ведаю, што бабуля вельмі любіла сваю прафесію. Яе крынскі тэатральны калектыў часта выступаў на сцэне Гродзенскага тэатра. Помню з дзяцінства некаторыя тэатральныя ўспаміны таго часу. У адным з гродзенскіх спектакляў прыйшлося ёй адыграць любоўную сцэнку. У глядзельнай зале сядзела мая мама, якая, убачыўшы набліжаючагася да тады маладой Алюты любоўніка, закрычала: „Эй ты, астаў маю маму!”. Нечаканае здарэнне разбавіла публіку да слёз.

Бабуля таксама любіла песні. Помню, вельмі мне падабалася яе „Сялэм просо на загоне”. Па сёння круціцца яна мне ў галаве. Найчасцей бабуля спявала пра адно нешчаслівае каханне. Пара закаханых, якім не дазволена было жыць разам, рашыла выплыць на мора і ўтапіцца, каб злучыцца назаўсёды.

Вельмі прыгожым атрымлівалася і яе рукадзельнае мастацтва. Па сёння зберагаю цудоўныя вышыўкі, вырабы на шпілі і трыкатаж.

З музыкай звязаны былі таксама мае бацькі, члены касцельнага і народнага крынскага хора.

**— Скажыце, калі ласка, якую пазіцыю займае ў Крынках культура?**

— Шчыра кажучы, мясцовыя не вельмі зацікаўленыя такімі справамі. Мерапрыемствы,ladжаныя нашым асяродкам, наведваюць адзінкі. Затое паспяхова складаецца супрацоўніцтва з дзяцьмі і моладдзю. Па меры магчымасцей мы стараемся задаволіць іх вялікую прагу пазнання.

**— Як выглядае выкарыстанне мясцовай прасторы, культурнай спадчыны?**

— Ой, мізэрна. Мы рэалізавалі розныя праекты, звязаныя са шматкультурнасцю, накіраваныя перш за ўсё да мясцовай моладзі. У іх рамках праходзіла знаёмства за штодзённым жыццём продкаў, песнямі, кухняй, рэлігіяй. З пакойным Сакратам Яновічам мы раскрывалі сакрэты мясцовай мовы. Ён не спадзяваўся і быў вельмі задаволены, што нашы дзеці ўсё-такі мелі нейкую арыентацыю ў беларушчыне.

Разам з сяброўкай, мясцовай аматаркай гісторыі Цэлінай Бах-Шчавінскай доўгія гады мы збіралі старыя фотаздымкі і прадметы побыту. На жаль, наша немалая калекцыя чакае яшчэ сваёй экспазіцыі.

З нейкага часу мы таксама супрацоўнічаем з культурным аб’яднаннем „Тэрра інкогніта”. Папраўдзе, дзейнасць гэтага аб’яднання заінспіравала і пачала нашыя новыя, чарговыя ініцыятывы. Мы зразумелі, што трэба хапацца за апошнюю хвіліну. Людзі адыходзяць, памяць сціраецца, следу па нас так і не застанецца. Я заўсёды паўтарала нашаму жаночаму калектыву „Экзіт”, што трэба памятаць і пра колішнія, навакольныя песні. Прасіла я, каб апрача эстрадных шлягераў, уносілі яны ў рэпертуар любімыя творы сваіх мам і бабуль. Цяпер якраз працую над новым праектам „Даўнія песні Крынак і наваколля”, у які апрача жанчын з „Экзіту” ўвойдуць нашы гімназісты. Арганізую фінансавыя сродкі на выданне кружэлкі і спеўніка з нотным запісам твораў, якія асабіста будзем збіраць па навакольных вёсках. Калі грошай не атрымаем, то хаця пазапісваем матэрыял з планаваных экспедыцый. Сваё партнёрства і падтрымку ў гэтай справе задэкларавала таксама крынская „Тэрра інкогніта”. Завяршэннем планаванага праекта будзе цыкл канцэртаў, між іншым у вёсках нашай гміны.

**— Шчыра дзякую за размову і няхай Вам Бог дапапожа ў здзяйсненні Вашых вялікіх намераў.**

Іаанна ЧАБАН

# З роздумаў маладога чалавека

Свет цяпер адкрывае для маладых свае крылы шырока, вельмі шырока. Нагод увайсці ў дарослае жыццё ёсць нямала. І адны хутчэйшыя, але і небяспечныя для маладых людзей, іншыя даўжэйшыя — але лепшыя. Ці гэтыя магчымасці выбару даводзяць да таго, ці ў нас забіваецца пачуццё прыналежнасці да меншасці? Ці свет парывае нас у свае рукі і чыніць нас жыхарамі свету, а не сваіх краін? Ці традыцыя роднай старонкі ў сутыкненні з культурай сучаснага свету знікае з памяці, і ў выніку ўвогуле забываецца?

Спаглядаючы на ўсё, што адбываецца вакол мяне, з вялікім сумам мушу сказаць, што гэтыя адмоўныя рэзультаты штораз часцей спатыкаюцца. Вельмі цяжка абараніцца перад такім ходам спраў. Мае гэта свае прычыны ў зменах у мысленні маладых людзей. Старэйшыя пакаленні, мае дзядулі і іх дзяды ведалі, дзе знаходзіцца іхняе месца, што яны не маюць аж такой магчымасці, каб вырашыць стаць кімсьці іншым у свеце. Таму яны працягвалі традыцыі, развівалі розныя галіны сваёй культуры, увесь час не змяняючы месца, у якім жылі. У цяперашні час гэта памянялася і маладым чалавек, карыстаючыся нагодай, шукае свайго месца ў жыцці. Прабуе ён знайсці шчасце на розныя спосабы і гэтыя пошукі выклікаюць разгубленасць і згубу сваёй чыстай, традыцыйнай душы, з якой ён дарастаў. Вялікі свет выкрадае штогод мноства людзей з меншых мясцовасцей разам з іх пачуццём прыналежнасці да меншасці. І толькі некаторыя з іх вернуцца, большасць стане „жыхарамі свету”. Толькі якой цаной?

Я сам з гэтым усім, як сёлетні выпускнік белліцэя, маю непасрэдны кантакт. Большасць маіх сяброў вырашае штудзіраваць у вялікіх гарадах. Варшава, Кракаў, Гданьск — там старанне над захаваннем сваёй тоеснасці будзе вельмі цяжкае. Адразу мушу сказаць, што гэта не з’яўляецца немагчымым. Калі сяброўскія сувязі будуць трывалымі і дзецюкі будуць трымацца разам увесь час — тады шанцы на захаванне і развіццё пачуцця прыналежнасці будуць значныя. Трохі інакш маецца справа ў выпадку Беластока — тут значна лягчэй не забываць хто скуль паходзіць і кім ён ёсць для гэтага маладога студэнта, таму што родную старонку наведвае ён значна часцей, а магчымасць знаёмства з людзьмі падобнымі на яго мае нават ідучы па вуліцы.

Змены ў мысленні і развіццё свету давялі таксама да змен у пачуцці прыналежнасці да сваёй маленькай айчыны. Калісь людзі жылі ў тым самым месцы, дзе жылі продкі, і нават не думалі пра сваю прыналежнасць. Яна была ў іх, таму што яны жылі і кожным дзеяннем пацвярджалі гэта. У цяперашні час, калі маладыя выязджаюць і здабываюць вышэйшую адукацыю, у іх дзве магчымасці — або забудуць і палічаць маленькую айчыну няважнай у іх жыцці, або, карыстаючыся развоем, які прынясе адукацыя, сфармуюць сваю свядомасць і павялічаць свой удзел у развіцці культуры і традыцыі.

Цяпер вельмі важны час для нашай меншасці. На маладым пакаленні спачывае цяжар будучыні беларускай тоеснасці. Маю надзею, што гэта нам удасца і будзем не толькі падтрымліваць беларушчыну, але і яе развіваць. Гэта пацвярджаюць мае сябры, якія, незалежна ад выезду ў іншыя мясцовасці па вышэйшую адукацыю, хочуць да нас вярнуцца ў будучыні, каб жыць тут. Бо яны ведаюць, што іх месца — тут, у роднай старонні.

Мірон МАРЧУК

Мірон МАРЧУК

## Скарб

Калі вочы мае
Паглядзелі на залатыя пшанічныя нівы
Ў роднай краіне маіх бацькоў,
У сэрцы паявіліся жаль і туга
Па гэтай краіне зялёнай і чыстай,
Як сляза,
Якая ўпала на зямлю —
Чорную і ўрадлівую, —
З краіны мовы роднай,
Амаль святой,
Якая ў сэрцы маім ёсць,
была
і будзе.
Туга па людзях,
Якіх рукі чорныя і цвёрдыя,
як два камяні,
Якіх вочы,
Нягледзячы на працу
і слёзы,
Свецяць, як зоркі на небе
начным.
Вобразы краіны святой
У маім сэрцы
Сцерагу, як найбольшы
скарб-святыню.

## Конкурс

Ужо многа гадоў войт Нараўчанскай гміны (Гайнаўскі павет) арганізуе конкурс на „Найпрыгажэйшую сялянскую сядзібу”. У ім могуць удзельнічаць усе жыхары гміны. Заяўкі можна яшчэ падаваць да 30 чэрвеня гэтага года солтысам ды ў Гмінную ўправу і Гміны асяродак культуры ў Нараўцы.

Конкурсная камісія падвядзе вынікі спаборніцтва да 15 ліпеня г. г. Яна ацэніць эстэтыку сялянскіх панадворкаў і кветкавых агародчыкаў. Уручэнне дыпломаў і грашовых узнагарод традыцыйна ўжо адбудзецца на сёлетняй першай асенняй сесіі нараўчанскай Гміннай рады.

Варта дадаць, што конкурс стаў папулярны. Ён карыстаецца даволі вялікім зацікаўленнем жыхароў дванаццаці вёсак: Нараўкі, Заблотчыны, Альхоўкі, Ахрымоў, Новага Ляўкова, Семяноўкі, Тарнопаля, Пасек, Плянты, Свінароў, Смольніцы і Скупава.

## Фэст св. Ануфрыя

29 чэрвеня г.г. адбудзецца народны фэст у Старым Масеве (Гайнаўскі павет). З канцэртам выступяць мастацкія калектывы „Нараўчанкі” з Нараўкі, „Жаваранкі” з Махнатага ды „Лідар”, „Вясна” і „Гэта мы” — усе яны з Беластока. Пачатак а 17-й гадзіне.

На культурна-забаўляльнае мерапрыемства запрашаюць Гмінны асяродак культуры і Гмінная ўправа ў Нараўцы ды жыхары вёсак Новае Масева і Старое Масева.

## Іконы ў галерэі

19 чэрвеня гэтага года ў Гміннай галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы (Гайнаўскі павет) адкрылі выстаўку ікон аўтарства Міхала Пякарскага са Старога Ляўкова. Працаваць яна будзе да 17 ліпеня г. г. Агледзець яе можна ў гадзінах працы галерэі. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Сустрэчы „Зоркі” з Тамарай Саланевіч

Заўсёды, калі праходзілі Сустрэчы „Зоркі” ў Нараўчанскай гміне — спачатку ў Семяноўцы, а пасля ў Новым Ляўкове, мы глядзелі фільмы Тамары Саланевіч. Аднак, каб адкрыць шырэй дзяцей і моладзь на творчасць славутай рэжысёркі, трэба было часу і працы. Цягам апошняга года я думала, які патрэбны тут ключ да адкрыцця асобы. Бо цяжкасць тут такая — трэба перакласці мову фільма на пісанае слова. Дакладней, зрабіць газеткі з якасным сюжэтам і пераказам. Да гэтай пары няма грунтоўнага нарысу ні публікацыі пра Тамару Саланевіч. У „Вікіпедыі” памешчана сціплая біяграфічная нотка, і яна скапіравана на розныя спосабы ў шматлікіх запісках і інфармацыях.

Напэўна вялікай дапамогай і натхненнем былі тут вучні і настаўнікі з Нараўкі, цудоўныя і таленавітыя карэспандэнты і сябры „Зоркі”. Гэта найперш для іх хацелася прадставіць асобу іх славутай зямлячкі, патронкі Нараўчанскай гімназіі.



І вось з 10 да 15 чэрвеня, у лясным пансіёне Бора-Здруй (гміна Нараўка) адбыліся ўжо 27 Сустрэчы „Зоркі”. Нашая тэма: Людзі і месцы Тамары Саланевіч. На працягу тыдня мы сабралі нават сенсацыйны матэрыял і зрабілі дзве фантастычныя газеткі: „Галерэя Тамары” і „Людзі Тамары Саланевіч”. На майстар-класы традыцыйна ўжо з'ехаліся вучні з усёй Беласточчыны: Бельска, Нарвы, Беластока, Гарадка, Міхалова, Нараўкі. Нашыя доследы і пошукі выдатна папоўнілі расказы гасцей, якія наведалі нас у Ляўкове. Згодна з традыцыяй, мы падрыхтавалі і правялі з імі размовы, якія будуць надрукаваны на старонках „Зоркі”. Тое, што яшчэ вылучала 27 выпуск Сустрэч — гэта вынаходлівасць, неверагодны энтузіязм да працы, творчая і адначасова сяброўская атмасфера сярод усіх удзельнікаў. Усё гэта адлюстравалася ў нашых артыкулах, малюнках, вершах і гумары, якія надрукуем у „Зорцы”. На канец хочам падзякаваць многім людзям, якія дапамаглі нам здзейсніць гэты цяжкі, аднак патрэбны крок у бок прамоцыі асобы Тамары Саланевіч, ды выдатна спрычыніліся да класнага адпачынку. Нам дапамагалі: Міхалай Павільч — войт гміны Нараўка, Ганна Кандрацюк — настаўніца беларускай мовы ў Нараўцы, археолаг Кацярына Бяляўская з Нараўкі, настаяцель Міхалоўскай парафіі а. Ян Ярашук, сябры журналісты: Цэзары Галінскі, Дыяна Нахіла, Аліцыя Петручук і шмат-шмат іншых добрых людзей... Магчыма, дзякуючы ім нам удалося не толькі напісаць займальныя артыкулы, але і перажыць незабыўныя, творчыя хвіліны. І галоўнае: усе мы моцна палюбілі Тамару Саланевіч!

27 Сустрэчы „Зоркі” былі здзейснены дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі.

**Ганна КАНДРАЦЮК-СВЯРУБСКАЯ**

## Развітанне

**Як цяжка калі трэба**
**Развітацца —**
**Развітацца з тым,**
**Каго ты палюбіў.**
**Цяпер астаюцца ўспаміны.**
**Нейкі жаль.**
**Ніколі не забудзем,**
**Будзем памятаць.**
**А калі ты ўжо заснеш,**
**Гэта будзе ў тваім сэрцы.**

*„Галерэя Тамары”,*
*Наталля Васько,*
*І кл. гімназіі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы*

Фота Ганны КАНДРАЦЮК



Тамара Саланевіч паводле Зузі Кардзюкевіч, IV кл. НШ св.св. Кірылы і Міфодзія ў Беластоку




## Інфарматар

***Імя:*** Тамара
***Прозвішча:*** Саланевіч
***Бацькі:*** Міхалай і Вольга
***Дата нараджэння:*** 17 верасня 1938 г.
***Месца нараджэння:*** Нараўка
***Выгляд:*** доўгія чорныя валасы, элегантная жанчына
***Дата смерці:*** 18 ліпеня 2000 г.
***Месца смерці:*** Беласток
***Месца спачыну:*** Міхалова
***Творчасць:*** дакументальныя фільмы пра свет людзей Падляшша. Самыя вядомыя кінастужкі: „Нараўчанская балада” („Kresowa ballada”), „Ці чуеш як плача зямля”(„Czy słyszysz jak płacze ziemia?”), „Ахвяраванне”(„Żertwa”), „Матачнік” („Matecznik”), „Мелодыя душы” („Melodia duszy”).

## Сустрэчы „Зоркі”

Мяне завуць Клаўдзія Галінская. Я вучаніца чацвёртага класа Непублічнай школы імя святых Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Я першы раз на Сустрэчах „Зоркі”.

Мне вельмі тут падабаецца. Я думала, што тут будзе зусім інакш. Цяпер я ведаю, што тут весела, міла і прыемна. Нашай задачай з'яўляецца падрыхтоўка газеткі (мы падзелены на рэдакцыі). Кожная рэдакцыя мае свайго галоўнага рэдактара. Настаўнікі і журналісты маюць вельмі добрыя думкі. Цэлы наш працоўны дзень запоўнены цікавымі сустрэчамі з выдатнымі людзьмі.

*„Людзі Тамары Саланевіч”*

# У маёй памяці — тры вобразы Тамары Саланевіч


У час вандроўкі па месцах Тамары Саланевіч з пушчы выйшлі зубры

Фота Ганны КАНДРАЦЮК


Тамара Саланевіч вачыма Эвы Аврарчук, I кл. Гімназіі з ДНБМ у Бельску-Падляшскім

— кажа наш госць і сябра Сустрэч «Зоркі», археолаг Кацярына Бяляўская з Нараўкі. Вобраз славутай рэжысёркі запамятала будучы дзяўчынкай, а гэта было на зломе 70/80 гадоў дваццатага стагоддзя.

У памяці спадарыні Касі асталіся чуткі і легенды, якія суседзі шапталі пра Тамару Саланевіч. Яна сама любіла назіраць са свайго акна ў хаце за тым, што адбывалася на панадворку славутай рэжысёркі. Таксама, Тамара Саланевіч, была яе суседкай! Паслухайце тады...


Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Кацярына Бяляўская (злева)

*Вобраз I:*

— На панадворку стаіць вялікая машына з надпісам TV, — пачынае спадарыня Бяляўская, — і многа невядомых людзей. Там многа ўсякай апаратуры, кабеляў, мікрафонаў, пануе мітусня. Натоўп людзей і Тамара. Яна не стаіць збоку, яна ўсярэдзіне, у самым цэнтры. Я не вельмі разумела, што там адбываецца, — адзначае нашая субяседніца, — там панаваў такі зрух. Чагось такога яшчэ не было ў Нараўцы...

Пасля даведаліся, што на панадворку здымалі эпізоды да „Нараўчанскай балады”, а сярод акцёраў былі простыя людзі з Нараўчанскай гміны, жанчыны з аматарскага тэатральнага гуртка з Меляшкоў, спевакі з беларускіх калектываў з Гарадка і Бельска, моладзь з Бельскага беларускага ліцэя.

*Вобраз II:*

— Тамара — элегантка. Яна заўсёды была апранута дастойна і густоўна. Найбольш памятаю Тамару ў доўгім плашчы, з доўгімі чорнымі валасамі, і ў туфлях на высокіх абцасах. Яна хоць была высокая ростам, не мела комплексаў, каб надзець туфлі на высокім абцасе! Тамара заўсёды прыязджала да маці перад Вялікаднем. У Вербную нядзельку яна заўсёды ішла з вярбой у царкву. Яна прывозіла з сабой подых сталіцы. Мы, дзяўчаты, глядзелі на яе ў захапленні. Часам некаторыя нашыя людзі пасміхаліся, бо нічога не ведалі пра моду. А Тамара, як сапраўдная варшавянка, уражвала сваім стылем і элегантнасцю. У яе быў свой, арыгінальны стыль!

*Вобраз III:*

— Тамара апранутая ў простую кашулю, у хустцы на галаве і ў гумовых ботах. У руках нясе граблі. Яна спяшаецца, каб разам з маці, пры сонечным надвор'і пасушыць сена на лузе пад лесам. Яе маці Вольга сама абрабляла вялікую гаспадарку. Памятаю, што калі Тамара ішла ўбіраць сена, то людзі гаварылі, што будзе дождж. Верце ці не верце, але штось такое было. Заўсёды, калі Тамара ішла да сена, ішоў дождж, — заключае расказ археолаг Кацярына Бяляўская. Апошняя вестка адкрывае нас на нешта шырэйшае. Мы адчуваем незвычайнасць Тамары Саланевіч.

*„Людзі Тамары Саланевіч”: Паўліна Ваўранюк (Гімназія імя епіскапа генерала Міpaна ў Нарве) і Вікторыя Барэчка (Гімназія імя Тамары Саланевіч у Нараўцы).*

*Дапамагалі: Вераніка Кардзюкевіч і Клаўдзія Галінская (НШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку), Аляксандра Зінкевіч (КШ з ДНБМ імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім), Патрыцыя Карлаў (Гімназія імя Роду Хадкевічаў у Гарадку), Якуб Ваўранюк і Крыстыян Паскробка з Ш-ПК у Нарве. Апрацоўка і праўкі: Валянціна Бабулевіч, Іаанна Марко, Уршуля Шубзда. Рэдакцыя тэксту: Ганна Кандрацюк.*


На панадворку Тамары Саланевіч

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Польска-беларуская крыжаванка №26

Запоўніце клеткі беларускімі словамі: 1. nos; 2. ...Sołoniewicz; 3. ryba; 4. autobus; 5. poszedł; 6. kot; 7. mama.

Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 22:**

Рот, як, сава, удод, Кракаў, як, Ас, корт. Шкура, сук, вада, воўк, рад, яр, тракт. Узнагароды, набор аўтаручак (з металічнай нотай), выйгралі **Магда Пташынская, Аня Бяляўская, Наталля Васько** з Нараўкі, **Моніка Зенюк, Іаанна Раманюк, Аляксандра Чабай, Эмілія Масальская, Юстына Свентахоўская** з Новага Корніна, **Мартына Ігнатовіч, Мартына Куклік** з Бабікаў. Віншуем!



Рыс. Дамінікі Благушэўскай

# Пяты раз „Пазнаем Беларусь”

Конкурс „Пазнай Беларусь” быў аб’яўлены Культурным цэнтрам Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча ў першы раз на пачатку 2009 года для моладзі, пражываючай у Польшчы, зацікаўленай гісторыяй і культурай Беларусі, яе сучасным жыццём, для актыўных творчых асоб. Мэтай конкурсу з’яўляецца папулярызацыя сярод маладога пакалення беларусаў у Польшчы ведаў пра культуру, гісторыю і сучаснасць Беларусі, садзейнічанне рэалізацыі творчага патэнцыялу дзяцей і моладзі беларускай меншасці ў Польшчы, зацікаўленне грамадскасці праблемай захавання нацыянальнай самасвядомасці сярод беларускай моладзі ў Польшчы. У пятым выпуску конкурсу прынялі ўдзел вучні навучальных устаноў у Польшчы ва ўзросце ад 5 да 19 гадоў, не толькі вывучаючыя беларускую мову.

Да ўдзелу ў конкурсе прыняты былі не толькі працы на беларускай мове. Адзначалася арыгінальнасць і творчы падыход да афармлення. Конкурс праводзіўся пад патранатам Культурнага цэнтра Беларусі, епіскапа Беластоцка-Гданьскай епархіі і медыйным — Радыё Беласток і Тыднёвіка „Ніва”.

Намінацыі конкурсу мелі чатыры ўзроставыя катэгорыі: 5-7, 8-12, 13-15 і 16-19 гадоў. Па кожнай намінацыі вызначаны былі пераможцы па ўзроставых катэгорыях з прысуджэннем дыпломаў першай, другой і трэцяй ступеняў. Конкурс праводзіўся па намінацыях: лепшы малюнак — пластычная праца пра Беларусь; фотаздымак аб Беларусі ці беларусах; літаратурна-паэтычны твор (апавяданні, вершы, замалёўкі і г.д.); сачыненне „Беларусь і беларускасць у гісторыі маёй сям’і” і мультымедыйная прэзентацыя аб Беларусі (з 8 гадоў). Працы прымаліся да 15 красавіка г.г. На конкурс паступілі 253 працы.

— Конкурс праводзіўся ў першую чаргу дзякуючы БГКТ, таму што КЦБ пераехаў у Варшаву, і гэты конкурс сёння жыве, — заявіў кіраўнік Культурнага цэнтра Беларусі Эдуард Швайко. — Думаю, што сумеснымі намаганнямі будзе таксама выдадзены альбом узнагароджаных прац. Вельмі ўражваюць таксама сачыненні дзяцей, тое, што яны думаюць пра Беларусь. Узнагароды фундуюць таксама Міністэрства адукацыі Беларусі і Мірскі замак. Пераможцы паедуць на экскурсію ў Беларусь.

Абвяшчэнне вынікаў і ўручэнне ўзнагарод лаўрэатам адбылося ў сядзібе Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, побач Культурнага цэнтра Беларусі (КЦБ) у Польшчы, галоўнага арганізатара конкурсу. Усіх лаўрэатаў і тэмы іх прац немагчыма пералічыць на старонках „Нівы”. Кожны ўдзельнік конкурсу адзначаны быў ганаровым дыпломам, а пераможцы конкурсу ўзнагароджаны каштоўнымі прызамі. Атрымалі ва ўзнагароду бумбоксы таксама апекуны калектываў, якія аздобілі завяршэнне конкурсу. Усе, апрача грамат, атрымалі каштоўныя ўзнагароды: бумбоксы, фотаапараты, MP3-плэеры і слухаўкі, а пераможца Гран-пры Магдаліна Вілюк (КШ з ДНБМ у Гайнаўцы) атрымала таксама карціну-ікону аўтарства Аляксандра Сільвановіча. Для ўдзельнікаў і пераможцаў конкурсу падрыхтавана была канцэртная праграма, на якой выступілі м.інш. дзеткі з „Вясёлкі” з Дзіцячага садка № 14 у Беластоку, Пачатковай школы № 4 у Беластоку, Комплексу школ з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім, Комплексу школ № 4 імя Адама Міцкевіча ў Бельску-Падляшскім (вядзе яго Аліна Нігярэвіч), „Маладое ГДК” у бел-чырвона-белых строях.

Сярод удзельнікаў конкурсу былі дзеці, якія засяродзіліся на мастацкім і літаратурным апісанні падляшскай беларушчыны. Так зрабілі м.інш. вучні, што займаюцца ў гуртку беларускай мовы ў Шудзялаве з матушкай Людмілай Клімук:

— На завяршэнне конкурсу прыехалі таксама бацькі маіх дзяўчатак. Вось Наталька Гарчак з сястрой Асяй і іх бацькі Аня і Кшысь. З шудзялаўскай школы. Наталька атрымала II месца за сачыненне „Калі Вялікдзень быў вялікім (святкаванне беларусаў на Сакольшчыне)”. Кінга Караліна Ракіцкая не змагла прыехаць, захварэла. Яна ў маладзейшай групе таксама здабыла II месца за сачыненне „Беларусь і беларусы ў маёй сям’і”, а праца са здымкамі. У нашым рэгіянальным беларускім кружку спазнаем свет, але не той далёкі, і тое, што калісь мелі мы тут на месцы. Яны ўжо пару гадоў ходзяць да мяне на кружок, і іх гэта проста цікавіць, не трэба было іх спецыяльна заахвочваць да ўдзелу ў конкурсе.







— А Оля Яроцкая таксама не можа прыняць свае ўзнагароды, бо мае сёння тэатральныя майстар-класы ў Драмтэатры імя Аляксандра Вянгеркі, — кажа тата гарадоцкай вучаніцы, якая ўжо пяты раз атрымлівае ў гэтым конкурсе прызы за малюнак. Ніколі яшчэ не была ў Беларусі, і тата хацеў бы выбрацца з ёю хаця б да Дзеда Мароза.

Шмат настаўнікаў прымала ўзнагароды ад імя сваіх вучняў, якія ў гэты час мелі іншыя заняткі. Бачым настаўнікаў з гайнаўскага комплексу беларускіх школ, настаўніцу беларускай мовы з непублічнай школы імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Прыехала яна з пераможцамі з Сустрэч „Зоркі”, дзе яны прымаюць удзел у творчых майстар-класах. Яе вучаніца Вераніка Кардзюкевіч у катэгорыі 8-12 гадоў здабыла першае месца за „Ляльку”.

— Ужо перад самым конкурсам вышыла яна ляльцы кашулю ў беларускі ўзор! — хваліць настаўніца акуратную, таленавітую дзяўчынку. Яна і на Сустрэчах „Зоркі” выявіла свае шматлікія таленты і працавітасць.

З Непублічнай ПШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія тут і больш лаўрэатаў: Мацей Сіроцкі — I месца за „Крыж св. Еўфрасінні Полацкай”, Патрык Місюк за адмысловы гадзіннік-кружэлку, Марыя Савіцкая за малюнак „Свята-Васкрасенскі сабор” — II месца), Ніна Місюк за „Вянок” (III месца); у катэгорыі 13-15 гадоў — Якуб Шэрэмэта (I месца), Якуб Матышэк (за фатаграфічны „Альбом”); за мультымедыйную прэзентацыю аб Беларусі I месца атрымаў Матэвуш Наумюк („Якуб Колас”), а вылучаны Агата Усціновіч, Аляксандр Семянюк і Наталля Аўласюк. Гэта аж столькі лаўрэатаў з невялікай беластоцкай школы! Настаўніца Іаанна Марко, якая ў шматлюдным конкурсе на найлепшага настаўніка ў ваяводстве апынулася на 8 месцы, неўзабаве едзе са сваімі вучнямі на экскурсію ў Беларусь, якой яны яшчэ не бачылі.

Максім Фіёнік (катэгорыя 8-12 г.) з Бельска, які не першы раз прымае ўдзел у пластычным і літаратурным конкурсе, у гэты раз за падборку сваіх здымкаў „Цялесная і духоўная страва” апынуўся на III месцы, за эсэ „Мікалай Тарасюк — чалавек-легенда” атрымаў I месца, а за „Інтэрв’ю з Людмілай Антыхові-Валынец” — II. Гэта вельмі спелыя і добра па-беларуску напісаныя тэксты. „На конкурс заявіў я таксама здымкі, на якіх відаць перш за ўсё абрады”, — удакладніў вучань бельскай „тройкі”.

У намінацыі лепшы малюнак перамаглі Мацей Сіроцкі (НПШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія), Іаанна Галіцкая (ПШ № 3 у Бельску), Каліса Пятроўская (Самаўрадавае прадшколле № 14 у Беластоку), Вераніка Кардзюкевіч, Якуб Шэрэмэта (НПШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія). За здымкі ўзнагароджаны Якуб Ваўрусевіч (ПШ № 3 у Бельску), Караліна Баранаў (Комплекс школ у Чаромсе). Вершам перамаглі Якуб Нікіцюк (ПШ № 3 у Бельску), Адам Харкевіч (гміназія ў Нараўцы), Якуб Ваўрусевіч (ПШ № 3 у Бельску). За сачыненні першыя прызы ўзялі Максім Фіёнік і Эмілія Сахарэвіч (ПШ № 3 у Бельску), Хрыстафор Лушчынскі (за „Ваенныя ўспаміны майго дзядулі”, гімназія № 3 у Бельску), Ганна Хомчук („Усё пачалося ад прадзеда”, КШ з беларускай мовай у Гайнаўцы). За мультымедыйную прэзентацыю аб Беларусі I месца атрымаў Матэвуш Наумюк з НПШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія. Узнагароджаны былі таксама вучні Комплексу школ № 3 у Бельску-Падляшскім Матэвуш Брэчка, Аляксандра Праняўіцкая, Пётр Ігнатовіч, Бартламей Казлоўскі, Магдаліна Ігнатовіч, Аляксандра Брэчка, Паўліна Ёдла, Анеля Хмур, Юліта Данільчук, Хрыстафор Лушчынскі, Юльянна Падолец, Аскар Цюлькевіч, Габрыела Мікуліч, Андрэй Сцепанюк, Сара Сцепанюк, Паўліна Ёдла; бельскія белліцэісты Дар’юш Шафран і Наталля Нікалаюк — і гэтая відавочная перамога і перавага сведчыць таксама і аб настаўніках школы, якія найчасцей апекаваліся ўдзельнікамі конкурсу. Багата прадстаўлены лаўрэатамі далейшых месцаў таксама Самаўрадавы садок № 14 у Беластоку — Анастасся Шэрэмэта, Дар’я Пятроўская, Анна Іванюк, Адрыян Войцюк. Гарадок якасна прадставіла сама Аляксандра Яроцкая, Чыжы — Уршуля Паўлючук, Гайнаўскі комплекс школ № 6 (ПШ № 3) — Аляксандра Семянюк, Караліна Баравік, Кацпэр Кэчынскі, Мая Трафімюк; Нараўчанскую гімназію — Адам Харкевіч і Наталля Васько; Чаромху — Юля Астапковіч (з Каралінай Баранаў). Сярод гайнаўскіх гімназістаў і ліцэістаў вылучыліся Сільвія Скепка, Аляксандра Баўтручук, Грышка Гіншт, Адрыян Жукоўскі, Ганна Хомчук, Марта Лукша, Мая Трафімюк, Уршуля Баравік. Вылучаны быў таксама за мультымедыі Адам Артэмюк з Ольштына.

Пералічваем прозвішчы ўдзельнікаў-пераможцаў, якія вядомыя таксама плённым удзелам у беларускім мастацкім, школьным і грамадскім жыцці на Беласточчыне, якія прыносяць гонар і радасць і сваім школам, і настаўнікам, і бацькам, і нам усім.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# Юбілей у гістарычным аспекце

## 21 чэрвеня ў Музеі сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы адбылася навуковая канферэнцыя „Пабужнае Падляшша". Было гэта чарговае мерапрыемства, прымеркаванае да 500-годдзя Падляшскага ваяводства.

Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



Рака Нурэц каля Цеханоўца; у XIX ст. граніца паміж Польскім Каралеўствам і Расійскай Імперыяй

У сапраўднасці Падляшскаму ваяводству складана даць адназначную метрыку, бо ў 1513 годзе адно паўстала ідэя стварэння новай адміністрацыйнай адзінкі і быў назначаны ейны арганізатар, Іван Сапега. А новае, Падляшскае, ваяводства, вылучанае з раней аграмаднага Троцкага, стае на свет шэсць гадоў пазней — у 1520 годзе.

— Мы ўсё вывучаем, чым з'яўляецца Падляшша, — гаварыў прафесар Універсітэта ў Беластоку Адам Дабронскі, — якія яго адносіны да адміністрацыйна-тэрытарыяльных дзяленняў. З чаго ўзялася яго назва; ці ад суседства з ляхамі, ці можа ад таго, што яно — у адрозненне ад іншых зямель Вялікага Княства Літоўскага — было пад ляцкімі законамі? Гэтую зямлю з ходам часу раздзялялі граніцы розных дзяржаў, м.інш. Аўстрыі. Тут пралягалі граніцы, якія і ядналі, і дзялілі. Дэмаграфічнае і культурнае падмацоўванне зямлі прыходзіць з розных напрамкаў. З усходу яно слабне з пачаткам Першай сусветнай вайны, а з канцом Другой і зусім гасне. Мясцовае праваслаўе таксама мяняе свае арыенцёры: Русь, Польшча, Расія... Ды і каталіцтва, якое прыходзіць з захаду, пазней падмацоўваецца з усходу — з Вільні і Луцка. Прамысловасць тут паяўляецца па царскай волі і яе дзейнасць накіраваная на ўсходняга карыстальніка. Не сфармаваўся на Падляшшы адзіны культурны цэнтр; мясцовая інтэлігенцыя была ў прынцыпе звязана са шляхецкімі дварамі. Культурнай асаблівасцю Падляшша стала „свойскасць". Асноўны ўплыў на ход падзей фармавала не нацыянальнасць, але веравызнанне. Істотныя камунікацыйныя шляхі былі скіраваны на вонкавыя асяродкі. Не адбыліся тут ніякія мясцовыя супольныя знамянальныя падзеі. Не сфармавалася тут рэгіянальная вопратка, песенны набор, падляшская самасвядомасць. І, папраўдзе, невядома па чыёй ініцыятыве ўзнікла Падляшскае ваяводства: і не па літоўскай, і не па мазавецкай...

Пра Падляшша ў эпоху Сярэднявечча расказаў прафесар Алег Латышонак, таксама з беластоцкага ўніверсітэта. Канкрэтных інфармацый на гэтую тэму мала і мы абапіраемся на шэраг гіпотэз. Мы можам толькі здагадвацца, якія тады адбываліся падзеі на падляшскіх землях. Гісторыку гэта цікава, але ўсё ж такі трэба нейкую версію вылучыць. Першы раз Падляшша ўзгадваецца у *Аповесці мінулых гадоў* пад 983 годам, калі кіеўскі князь Уладзімір выправіўся на яцвягаў. Польскі гісторык Ян Длугаш меркаваў, што яцвягі жылі на Падляшшы, а іхняй сталіцай быў Драгічын. Сённяшнія польскія гісторыкі бачаць яцвягаў толькі на поўнач ад Бобры. Беларускія ж гісторыкі, верныя Длугашу, аддаюць яцвягам землі „вялікага" Падляшша, значыць усю берасцейска-драгічынскую зямлю. У сапраўднасці спрэчкі кранаюць этнічную прыналежнасць яцвягаў, ад якіх археолагі знаходзяць пахаванні ў каменных абставах, аднак абодва бакі не выходзяць за межы той самай этнічнай прасторы. Але нядаўна пецярбургскія вучоныя выступілі з арыгінальным тэзісам, што яцвягі не былі ніякай этнічнай групай, толькі звышнацыянальнай карпарацыяй ваякаў. Само названне *яцвягі* не ўдаецца адназначна вынесці з балцкага моўнага абшару. Яцвягамі, у агульнасці, маглі быць і скандынавы, і балты, і славяне. І тая карпарацыя магла панаваць не толькі ў Панямонні, але і ў Пабужжы, на што падказваюць раскопкі гарадзішчаў у Панямонні і Палессі. Мяркуецца, што выправа Уладзіміра ў 983 годзе магла быць выклікана патрэбай устанаўлення кантролю над камунікацыямі па Нёмане, Бугу і Прыпяці. Тады, менавіта, для замацавання кіеўскага панавання на гэтым абшары былі ўзведзены ўмацаванні ў Тураве і Берасці. Гэта цікавае меркаванне, закладзенае на археалагічным матэрыяле. І падаецца верагодным, што берасцейска-драгічынская зямля была часткай Тураўскага княства. Аднак дакладных вестак пра падпарадкаванне гэтай зямлі пакуль што няма. У 1101 годзе была першая спроба ўстанаўлення нейкай берасцейскай дзяржаўнасці, аднак беспаспяховая. Узнікае пытанне, калі драгічынская зямля была далучана да ВКЛ. Ёсць меркаванне, што адбылося гэта каля 1320 года, калі скончыўся мужчынскі род валынскіх князёў. Але ёсць і іншае меркаванне, што наступіла гэта пасля 1340 года, калі быў атручаны апошні валынска-галіцкі князь Баляслаў, мазаўшанін. Напэўна было Падляшша ва ўладанні Літвы ў 1351 годзе, а юрыдычна ў 1363 годзе ў выніку польска-літоўскай дамовы, калі гэтая зямля адышла пад літоўскае ўладаранне. Агульна можна меркаваць, што з пачатку другога тысячагоддзя да канца XII ст. берасцейска-драгічынская зямля была ўласнасцю кіеўскіх князёў, якія раздавалі яе каму хацелі. Пазней становіцца яна ўласнасцю валынскіх князёў — да паловы XIV ст.

Дарота Міхалюк з Торуньскага ўніверсітэта расказала пра межы Падляшскага ваяводства ў 1513-2013 гг. Сённяшняе Падляшша не з'яўляецца злітным абшарам. Ужо ў найранейшых рускіх летапісах Берасце і Драгічын паяўляюцца наперамена. Камунікацыйным стрыжнем гэтай зямлі быў Буг і паралельны яму дарожны шлях. І беручы пад увагу камунікацыйнае значэнне гэтай зямлі выклікала яна цікавасць вонкавых суб'ектаў для ўстанаўлення там іхняга кантролю. Кракаўскія, кіеўскія, мазавецкія князі, крыжакі, яцвягі, а пазней і Літва былі зацікаўлены Падляшшам. У 1413 годзе паўстала Троцкае ваяводства Вялікага Княства Літоўскага, якое ахапіла і берасцейска-драгічынскую зямлю. Да берасцейска-драгічынскай зямлі пазней уключаліся ўсе новыя здабыткі, напрыклад, адваяваныя ў яцвягаў. Далучанне новых зямель выклікала за сабою таксама наплыў новага асадніцтва з розных тэрытарыяльных і культурных напрамкаў. Дата паўстання Падляшскага ваяводства неадназначная, бо ж і яно фармавалася ў ходзе паэтапнага працэсу. У 1513 годзе быў прызначаны *наднараўскі* ваявода, Іван Сапега, які па чатырох гадах развітаўся з гэтым светам. Чарговая згадка пра ваяводства, ужо Падляшскае, датуецца 1520-м годам; яго ваяводам становіцца Януш Касцевіч. Тады быў складзены акт, які ўстанаўліваў Падляшскае ваяводства з Драгічынскай, Мельніцкай, Бельскай, Берасцейскай, Кобрынскай і Камянецкай




ZMIANY TERYTORIALNE WOJEWÓDZTWA PODLASKIEGO/BIAŁOSTOCKIEGO 1513-1999



зямель. Гэтае апісанне не змяшчала трасіроўкі лінейных межаў, так як гэта маем сёння, што выклікала шмат непаразуменняў і тэрытарыяльных спрэчак адносна межавання, асабліва на поўдні і захадзе новага ваяводства. У 1546 годзе каралеўская канцылярыя рашыла дакладней устанавіць межы між ваяводствамі, ствараліся розныя размежавальныя камісіі, але яны часта толькі разводзілі рукамі. Была згода толькі на некалькіх адрэзках тае граніцы. Тадышняе апісанне межаў асноўвалася на тапаграфічных аб'ектах, напрыклад на рэчках, якія, бывала, мянялі з ходам часу свае рэчышчы. У XVI ст. тадышняе Падляшша стала размяжоўваца: яго паўночна-заходняя частка — Драгічынская, Мельніцкая і Бельская землі, дзе стала дамінаваць мазавецкае асадніцтва, пачало гравітаваць у напрамку Кароны. Рыхтуючыся да шчыльнейшага ўз'яднання Кароны і Княства, кароль Зыгмунт Аўгуст вырашыў правесці адміністрацыйныя змены, прымяркоўваючы велічыню агромных тэрытарыяльна літоўскіх ваяводстваў да значна меншых каронных. Таму ў 1566 годзе Сейм прыняў рашэнне пра ўзбуйненне ліку літоўскіх ваяводстваў, у выніку чаго з Падляшскага ваяводства было вылучана Берасцейска-Літоўскае ваяводства, у склад якога адышлі Берасцейская, Кобрынская і Камянецкая землі. Вынікам гэтага было сцішэнне канфліктаў на заходніх межах Падляшскага ваяводства, затое ўзніклі новыя канфлікты на той мяжы, якая раздзяліла адзінае раней ваяводства; гэтыя канфлікты доўжыліся аж да другой паловы XVII ст., калі новыя бедствы скасавалі старыя непаразуменні. Гэты кшталт Падляшскага ваяводства пратрываў у прынцыпе да канца XVIII ст., да трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай. Невялікія змены наступілі ў ходзе далучання Падляшша да Кароны, бо не ўсе літоўскія магнаты, якія мелі ўладанні на Падляшшы, згадзіліся падпарадкавацца Кароне. Прыкладам род Хадкевічаў, якіх землі ў наваколлі Харошчы і Заблудава асталіся ў складзе ВКЛ. З трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай трывалай граніцай, ці то адміністрацыйных ці дзяржаўных суб'ектаў, становіцца Буг; спачатку граніцай між Прусіяй і Аўстрыяй. У 1807 годзе наступае чарговая змена — у сілу дамовы між імператарамі Аляксандрам І і Напалеонам паўстае Варшаўскае княства і Беластоцкая акруга ў складзе Расійскай імперыі. У 1815 годзе чарговая змена ў выніку Венскага кангрэса. У той час паяўляецца сядлецкае Падляшша — спярша пад назвай ваяводства, а пасля — губерні. У 1939-41 гг. рака Буг зноў становіцца гранічнай, а пасля Другой сусветнай вайны — таксама.

Тамаш Яшчолт з Універсітэта ў Беластоку звярнуў увагу на факт, што XIII і XIV стст. былі эпохай дэмаграфічнага заняпаду Падляшша ў выніку тагачасных ваенных грабяжоў. Буйнае асадніцтва на Падляшшы пачынаецца ў XV-XVI стст., асабліва з часам панавання вялікага князя Вітаўта, які вельмі прыхільна ставіўся да прышэльцаў з Мазовіі. Такі буйны рост ліку насельніцтва таксама паўплываў на патрэбу адміністрацыйнага вылучэння тэрыторыі, значыць — сфармавання ваяводства. Закладзеныя ў той час мясцовасці пратрывалі да нашага часу.

Сяргей Амелька з Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы таксама прыгадаў пра князя Вітаўта, што той мацаваў сваю ўладу, запрашаючы да сябе знатныя роды, якія маглі яго падтрымліваць. Такім вось чынам узвысіўся род Кішкаў-Цехановецкіх, з мазавецкіх Струмілаў, які ад Вітаўта атрымаў Браньск і Цехановец, а пазней шляхам сямейных повязей стаў адным з найбольш магутных магнацкіх родаў Вялікага Княства Літоўскага.

Своеасаблівым сувенірам ад Музея сельскай гаспадаркі імя Кшыштафа Клюка ў Цеханоўцы пад пяцісотгоддзе Падляшскага ваяводства стала перавыданне карты гістарычнага Падляшскага ваяводства, аўтарства Караля Германа дэ Пертэса. Быў ён асабістым картографам караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Ён склаў і апублікаваў карты амаль усёй Рэчы Паспалітай, большасць якіх згарэла ў час бамбардзіроўкі Варшавы ў 1939 годзе. А вось ***Mappa szczegulna woiewodztwa Podlaskiego, zrządzona z wielu innych mapp miejscowych tak dawniey jak y swiezo odrysowanych, tudziez goscincowych y niewątpliwych wiadomosci***, напісаная Пертэсам у 1795 годзе, захавалася...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Мазаіка ў другі раз


Уладзімір Вавульскі і Оскар Цюлькевіч на фоне ўзнагароджаных футболак, распрацаваных Адрыянам Анішчуком

Ужо ў другі раз у Беластоку завершаны конкурс «Падляшская мазаіка. У пошуках супольнасці пагранічча». Конкурс адрасаваны падляшскім вучням і накіраваны на прасоўванне нацыянальнай разнастайнасці рэгіёна і на вывучэнне талерантнасці і міжкультурнага дыялогу ў паўсядзённых адносінах паміж жыхарамі ваяводства, дзе ў апошнія гады назіраецца шэраг актаў расізму і ксенафобіі. Прызначаны былі галоўныя ўзнагароды ў васьмі катэгорыях і вылучаны працы з больш чым дзесяці навучальных устаноў у рэгіёне. Сярод сёлетніх пераможцаў, якія заваявалі першыя прэміі, былі вучні ІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім і беларускія дзеці з Дзіцячага садка № 2 у Гайнаўцы.

У гэтым годзе на конкурс былі дасланы 192 жывапісныя і прасторавыя творы, фільмы, мультымедыйныя прэзентацыі, вершы і г.д. ад 42 падляшскіх навучальных устаноў. Некаторыя аўтары — як выявілася ў час цырымоніі ўзнагароджання — прадставілі «комплексныя дзеянні ў даследаванні талерантнасці, адкрытасці і ўзаемаразумення, арганізаваныя на працягу некалькіх месяцаў». Незадоўга да цырымоніі ўзнагароджання адзін са стваральнікаў конкурсу дэпутат Сейма Роберт Тышкевіч, віцэ-старшыня парламенцкай камісіі па замежных справах, заявіў журналістам:

— Ідэю, каб мы ў прасоўванні культурнай разнастайнасці ды цярпімасці і добрага суіснавання на Падляшшы зышлі на ўзровень школ, шырока адобрылі як настаўнікі і бацькі, так і перш за ўсё дзеці. Якраз яны прынялі ўдзел у другім выпуску конкурсу з яшчэ большай прыхільнасцю і ў яшчэ большых маштабах.

Падкрэсліў:

— Конкурс з'яўляецца нашым адказам на інцыдэнты, якія ў апошнія гады здараліся ў нашым рэгіёне. Працы маладых людзей паказваюць якім на самой справе з'яўляецца Падляшша. Самае радаснае ў конкурсе, што маладыя так яго хочуць успрымаць і гэта сігнал для тых, хто сумняваецца ў тым, што на Падляшшы з талерантнасцю не ўсё ў парадку. Так, усё ў парадку. Аднак гэта патрабуе бесперапыннай працы, прасоўвання ідэі талерантнасці. Я рады, што яна становіцца адукацыйнай руцінай.

Старшыня журы, дырэктар VI Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Жыгімонта Аўгуста ў Беластоку Тадэвуш Мосек прамаўляў:

— Мэтай конкурсу з'яўляецца паказанне суіснавання ў нашым рэгіёне людзей розных культур, рэлігій і нацыянальнасцей.

Прэзідэнт Беластока Тадэвуш Трускаляскі заўважыў:

— Гэты конкурс — адзін з шанцаў паказаць, якім горадам сапраўды з'яўляецца Беласток.

Пераможцамі ў катэгорыі дашкольнікаў сталі Дамініка Несцярук, Наталля Раманюк, Малгажата Сікорская, Вольга Герасімюк і Мілена Хмялеўская з Дзіцячага садка № 2 у Гайнаўцы. Прадставілі яны малюнкі. Тры дзяўчынкі прыехалі на цырымонію ў беластоцкі ліцэй з мамамі, якія ганарыліся малечамі:

— Нашы дзяўчаткі прымаюць удзел у розных конкурсах, асабліва тых на беларускай мове, — не скрывалі мамы Олі і Дамінікі.

Оля сказала «Ніве»:

— Я паказала на карціне дом, а побач — калодзеж і каня. Пані ў садку паказала мне падобны малюнак у кнізе, і я яго намалявала.

Дамініка:

— Я намалявала сябе, як дэкламую верш на «Родным слове». Пані паказала мне, як я выступаю на роліку ў камп'ютары.

У катэгорыі звышгімназічных школ (індывідуальная праца) пераможцам стаў Оскар Цюлькевіч з ІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім (прэмія была ад супрасльскага тэатра «Вершалін»). Ён зняў амаль дзесяціхвілінны фільм п.з. «Падляшская мазаіка», у якім аб талерантнасці і шматкультурнасці гавораць малыя дзеці. У інтэрв'ю нашай газеце Оскар прыгадаў:

— Ідэю падказала мне мама, настаўніца пачатковай школы ў Орлі. Вучыць яна ў першым класе, і якраз з дзецьмі гэтага класа я запісваў размовы. Я ставіў толькі пытанні, з чым яны звязваюць такія словы як талерантнасць і шматкультурнасць, і яны адказвалі на гэта сваімі словамі.

Спасылаючыся на расісцкія і ксенафобскія здарэнні на Падляшшы, ён сказаў:

— Асабліва на нашай зямлі гэта непатрэбнае. Я думаю, аднак, што да такіх падзей прыводзяць толькі фізічныя асобы. Большасць так не думае і не робіць.

Прэмію ў катэгорыі звышгімназічных школ атрымаў таксама вучань бельскага белліцэя Адрыян Анішчук за праект футболак з надрукам «Podlaskie» на мовах нацыянальных меншасцей (даступныя на яго сайце). На цырымонію, на жаль, ён не дабраўся. Апякун працэсу стварэння ягонай, а таксама Оскаравай працы, настаўнік гісторыі ў Бельскім белліцэі Уладзімір Вавульскі гаварыў з намі пра ідэю конкурсу:

— А хто іншы, чым вучні ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча з беларускай мовай навучання, змог бы прыняць удзел у гэтым конкурсе? Як нацыянальная меншасць мы асабліва ўражлівыя да пытанняў нецярпімасці і нацыяналізму.

Вучні прафесара Вавульскага былі лаўрэатамі «Падляшскай мазаікі» і ў мінулым годзе:

— Адрыян зараз і ў мінулым годзе прымаў удзел у гэтым конкурсе. Тады ён паказаў фільм. Сёлета мы хацелі прыдумаць нешта, што пераклалася б практычна на тую шматкультурнасць. Ідэя надпісу на кашулю нарадзілася падчас нашага сумес-

працяг ☞11




Рэлігійнае кнігадрукаванне на беларускай мове — рэч дастаткова рэдкая. У храмах, калі і сустрэнеш беларускамоўныя кнігі, то наўрад ці больш за некалькі асобнікаў. Так сталася, што беларуская мова ў праваслаўных храмах практычна не выкарыстоўваецца. У каталіцкіх, якія дзейнічаюць у Беларусі, пачуць яе можна часцей.

Разам з тым беларускае рэлігійнае кнігадрукаванне існуе, хоць, канешне ж, яго аб'ёмы вельмі сціплыя ў параўнанні з аб'ёмамі такой літаратуры на мовах суседніх з беларусамі народаў. Дапамагае данесці слова Божае на беларускай мове Біблейскае таварыства, якое дзейнічае ў Беларусі. Каб пазнаёміцца з ім бліжэй, трэба зазірнуць на сайт арганізацыі, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **www.biblia-by.org**.

Адразу на галоўнай старонцы карыстальніка сустракае радаснае паведамленне аб тым, што Біблейскае таварыства выдала поўную Біблію на сучаснай беларускай мове. „Гэта знамянальная падзея ў жыцці нашага народа, якая мае велізарнае духоўнае і культурнае значэнне. Мы верым, што праз Свяшчэннае Пісанне на беларускай мове яшчэ ў шматлікіх сэрцах заззяе свет Хрыстоў, і Бог пашле багатыя блаславенні тым, хто шчыра шукае Яго. Мы молімся пра распаўсюд Божай весткі”, — распавядаецца ў тэксце пра выданне. Побач змешчаны здымак з трыма асобамі, якія, верагодна, спрычыніліся да з'яўлення новай беларускамоўнай Бібліі.

Што ж тычыцца будовы сайта, то яна даволі незвычайная. Выйсці на рубрыкі месцяцца па баках цэлага выяўлення, прычым побач з кожным знаходзіцца невялікі здымак. На расповед пра дзейнасць Біблейскага таварыства можна трапіць клікнуўшы на гузік, які месціцца ў самым нізе. Такое размяшчэнне таксама падаецца вельмі нязвыклым.

„Біблейскае таварыства ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца рэлігійнай арганізацыяй, якая была створана ў студзені 1992 года па ініцыятыве веруючых хрысціян розных канфесій: праваслаўнай, рыма-каталіцкай, грэка-каталіцкай, евангельскіх хрысціян-баптыстаў, хрысціян веры евангельскай, адвентыстаў сёмага дня, беларускай евангельскай царквы”, — кажуць пра сябе актывісты арганізацыі.

У Беларусі Біблейскае таварыства з'яўляецца буйным цэнтрам па распаўсюджванню Бібліі і іншай духоўнай літаратуры. „За час свайго існавання Біблейскае таварыства ў РБ распаўсюдзіла больш за 1 200 000 кніг. Таварыства мае вялікі каталог выданняў, які ўключае больш за 70 назваў кніг, а таксама аудыё- і відэаматэрыялаў. Біблейскае таварыства ў РБ удзельнічае ў перакладзе Бібліі на беларускую мову, актыўна супрацоўнічае з рэспубліканскімі сродкамі масавай інфармацыі ў справе духоўнай асветы насельніцтва, ажыццяўляе выданне кніг Святога Пісання і іншай хрысціянскай літаратуры на рускай і беларускай мовах”, — распавядаецца ў самапрэзентацыі.

Каб пабачыць кнігі, якія выдала таварыства, трэба зайсці на старонку „Каталог”. Адсюль можна даведацца, што дзякуючы намаганням гэтай рэлігійнай арганізацыі з'явіліся беларускамоўныя „Евангелле ад Марка”, „Евангелле ад Лукі”, „Хрысціянская азбука”, зборнік беларускай духоўнай паэзіі „Сонца святое — Хрыстос”, „Дзіцячая Біблія”.

Калі зноў вярнуцца на галоўную старонку сайта, то з левага боку месцяцца выйсці на тэксты пра дабрачынную дзейнасць Біблейскага таварыства ў Беларусі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара

Арганізацыя, пра якую маўчаць

# 70 гадоў з часу ўтварэння Саюза беларускай моладзі



22 чэрвеня 1943 года ў Беларусі была ўтворана моладзевая патрыятычная арганізацыя — Саюз беларускай моладзі (СБМ). Цягам усіх пасляваенных гадоў і ажно да часу гарбачоўскай перабудовы тэма гісторыі СБМ была табу. Зараз пра гэтую арганізацыю таксама амаль не згадваюць.

Арганізацыя дзеіла легальна, з дазволу нямецкіх акупантаў, на тэрыторыі Генеральнай акругі Беларусь. Яе генеральнай лініяй было выхаванне моладзі ў духу беларускага патрыятызму, любові да сваёй Бацькаўшчыны. Правадніком ідэі стварэння арганізацыі быў Вільгельм Кубэ, які неўзабаве быў забіты. Ёсць версія, што забіты якраз фашыстамі за прыхільнасць да беларускай культуры і арганізацый.

Галоўным органам СБМ быў штаб пад кіраваннем Міхася Ганько. Працу сярод дзяўчат на цэнтральным роўні вяла Надзея Абрамава. СБМ размяшчаўся ў Альбярціне пад Слонімам, там навучаліся юнакі. Аналагічная школа для дзяўчат была створана ў Драздах пад Мінскам. У тых самых Драздах, дзе зараз урадавая рэзідэнцыя, а не так даўно да выгнання жылі і амбасадары.

У СБМ прымалася беларуская моладзь ва ўзросце ад 10 да 20 гадоў. Галоўным друкаваным органам арганізацыі быў часопіс „Жыве Беларусь!”. На 1 чэрвеня 1944 года Саюз налічваў 12 635 чалавек і дзеіў ажно ў 56 раёнах Беларусі.

У Альбярціне ў былым палацы Пуслоўскіх праходзілі адмысловае навучанне і самі кіраўнікі СБМ. Як піша Юры Туронак, важнейшай задачай стваральнікаў арганізацыі была рыхтоўля новых кіраўнічых кадраў — функцыянераў штаба і кіраўнікоў суполак на тэрыторыі Генеральнай акругі Беларусь і зоны армейскага тылу. СБМ выхоўваў моладзь у беларускім духу, навучаў айчыннай гісторыі і роднай мове, нацыянальным традыцыям. Цікава, што насуперак настойлівай камуністычнай прапагандзе толькі трох са шматлікіх кіраўнікоў суполак СБМ перайшлі ў савецкія партызанскія атрады. Савецкае падполле вельмі варожа ставілася да СБМ, хоць многія юнакі Саюза прымалі ўдзел у разгроме гітлераўскай Германіі, ваявалі і гінулі ў Польшчы, Прусіі, Чэхіі.

Частка гадаванцаў арганізацыі пасля ўцёкаў нямецкіх войскаў пры наступе Чырвонай Арміі ў ліпені 1944 года перайшла ў антысавецкае падполле. Лёс кіраўнікоў і выхаванцаў СБМ склаўся па-рознаму — некаторыя загінулі, іншыя эмігравалі, трэція зведалі напоўніцу жах савецкіх сталінскіх канцлагераў. Сляды кіраўніка СБМ Міхася Ганько згубіліся пасля раззбраення батальёна „Дальвіц”. Ёсць звесткі, што ў 1945 годзе ён нелегальна вярнуўся ў Беларусь, дзе браў удзел у антысавецкім партызанскім руху. Надзея Абрамава пражыла ў эміграцыі да 1978 года і памерла ў Нямеччыне ў 70-гадовым узросце. Многія ўдзельнікі СБМ сталі вядомымі дзеячамі беларускага руху — як у эміграцыі, так і ў Беларусі.

У вельмі жорсткіх умовах Другой сусветнай вайны, калі паміж сабой змагаліся два таталітарныя антычалавечыя рэжымы, якія ўсяляк нішчылі беларускую зямлю і людзей, Саюз беларускай моладзі стаўся сапраўднай беларускай патрыятычнай арганізацыяй, сябры якога вартыя глыбокай павагі.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Актыўныя пенсіянеры

З нагоды сусветнага дня інвалідаў 5 чэрвеня гэтага года адбылася сустрэча пенсіянераў і інвалідаў у Гмінным асяродку культуры (ГАК) у Нараўцы. Сабралася 40 мужчын і жанчын з Нараўкі, Альхоўкі, Ляўкова, Плянты, Скупава і Сінароў. У сустрэчы прынялі ўдзел Мікалай Павільч — войт Нараўчанскай гміны, Анна Стульгіс — дырэктарка ГАК, Галіна Вяжхоўская і Ян Драўноўскі — радныя Гміннай рады і Янка Целушэцкі — солтыс Новага Ляўкова. Сустрэчу вяла Ядвіга Карпюк — старшыня Раённага праўлення Польскага саюза пенсіянераў (РП ПСП) у Нараўцы. У чэрвені г.г. адбудуцца выбары новых улад РП ПСП і таму старшыня падвяла некаторыя вынікі працы арганізацыі. Зроблена было многа культурна-забаўляльных мерапрыемстваў, краязнаўчых экскурсій (былі таксама замежныя) і сустрэч з цікавымі людзьмі. Старэйшыя людзі атрымлівалі самыя розныя харчовыя прадукты. Сёлета таксама іх атрымаюць. Старшыня пенсіянерскай арганізацыі назвала прозвішчы і падзякавала за дапамогу самым актыўным дзеячам ПСП. Яна падрыхтавала салодкі пачастунак і ўсім прысутным уручыла кветкі . Пры каве і гарбаце пенсіянеры мелі нагоду пагутарыць аб сваіх надзённых справах, абмяняцца нумарамі тэлефонаў.

У ліпені гэтага года члены ПСП ладзяць сустрэчу ля вогнішча на беразу Семяноўскага возера. Выбіраюцца на экскурсію па Падляшшы. Яны таксама намерыліся падвучыцца як карыстацца інтэрнэтам. Заняткі з імі павядзе інфарматык Роберт Алексюк. Мясцовая старшыня Агратурыстычнага аб'яднання запрасіла ўсіх ахвотных паплаваць на байдарках па рацэ Нараўцы. Байдарачны паход адбудзецца ў палавіне жніўня з Грушак або з Нараўкі. Падчас сустрэчы ў ГАК быў мікрафон для ўсіх (сярод старэйшых ёсць шмат таленавітых спевакоў) ды рэчавая латарэя.

## Кірмаш «Зубр»

14 ліпеня гэтага года бурмістр Гайнаўкі і Гайнаўскі дом культуры запрашаюць у гарадскі парк на Кірмаш «Зубр». Пачатак мерапрыемства а гадзіне 13-й.

Падчас сёлетняга кірмашу можна будзе агледзець і купіць вырабы рукадзелля і мастацкага рамяства. Народныя творцы пазнаёмяць з рознымі відамі рукадзелля, між іншым, вышыўкай, ткацтвам, саломапляценнем, бондарствам. Мастакі прывязуць свае лепшыя карціны і скульптуры. Будуць тут яшчэ і стравы рэгіянальнай кухні. Дык чаму ж іх не паспрабаваць? Для наведвальнікаў кірмашу зайграе і заспявае вядомы фолькгурт «Чарамшына» з Чаромхі.

(яц)

GMINA CZYŻE

Wójt Gminy Czyże
oraz Gminny Ośrodek Kultury w Czyżach
mają zaszczyt zaprosić na:

# IX Festyn / IX Фэстын „KUPALINKA / КУПАЛІНКА"

w Leniewie / у Ляневе
29 czerwca 2013 r. godz. 17:00
29 чэрвеня 2013 г. у 17:00 гадзін ( sobota / субота )

**У ПРАГРАМЕ:**
Канцэрт у выкананні:
беларускіх аматарскіх калектываў з Беласточчыны,
м.ін. выступяць: „Чыжавяне", „Збучанкі" і калектыў
пенсіянераў кола ў Чыжах, „Метро" і „Сказка" з Гайнаўкі,
„Нарва" і АРТ.ПРОНАР з Нарвы, „Калінка" і „Гай" з Беластока,
„Жаваранкі" з Махнатага.
**— Зоркі фэстыну - калектыв „ЦЕРНІЦА" з Беларусі**

**а таксама:**
Паказы пагранічнікаў і пажарнікаў
Конкурсы
Купальскі абрад
Феерверкі
Танцы

10 ☞працяг

нага абмеркавання. Графічны дызайн распрацаваў ужо сам Адрыян.

У склад журы конкурсу на чале з дырэктарам Моськам увайшла, між іншым, Кацярына Штоп-Руткоўская, сацыёлаг з Універсітэта ў Беластоку:

— У гэтым годзе паявілася штосьці, што мяне вельмі цешыць. Не толькі паказалі фальклор і што тут прыгожа, малюнкі, на якіх можна ўбачыць, што мы розныя. Некалькі прац расказвала аб праблемах. Прэзентацыя, што ўсё прыгожа і цудоўна гэта паўпраўда, і як гаворыцца ў старой яўрэйскай прыказцы, паўпраўда гэта цэлая хлусня. Трэба тут, у гэтым рэгіёне, расказваць аб разнастайнасці ад дзіцячага садка. Гэта няпраўда, што, напрыклад, каталікі, якія пражываюць на Падляшшы, бываюць у царкве, не ведаюць, што іконы пішуцца, а не малююцца. Гэтае веданне паверхоўнае. Пытанне ў тым, як дайсці да тых груп, якія ўжо заражаныя нейкай дрэннай ідэалогіяй. Гэты конкурс, аднак, ім не адрасаваны. Гаворка ідзе аб тым, каб выклікаць у дзецях цікаўнасць і пазбыцца страху перад «іншымі», аб перакананасці ў тым, што ўсе мы грамадзяне гэтай краіны, і кожны ўносіць у яе сваю культуру.

Оля і Дамініка з Дзіцячага садка № 2 у Гайнаўцы пры ўзнагароджаных работах

Галоўны прыз дастаўся школе № 1 імя Польскага чырвонага крыжа ў Граеве за серыю твораў мастацтва (больш за пяцьдзесят работ), мастацкі твор, мультымедыйную прэзентацыю і вельмі шырокую прэзентацыю эфектаў дзеяннаў вучняў у мясцовай супольнасці і ўзняцце тэмы шматкультурнасці ў школе і горадзе, таксама сярод членаў гарадской і гміннай рад у Граеве. Ганаровы патранат над конкурсам ажыццяўляла, падобна як год таму, упаўнаважаная па справах роўнага трактавання Агнешка Казлоўская-Раевіч. Наступны выпуск конкурсу — праз год.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Адгаданка

1. спадзяванне 30 верасня., 2. адзінка электрычнага супраціўлення, 3. адзінка звязаная перавяслам саломы, 4. кусцік, што цвіце ў верасні, 5. дождж з ледзяных шарыкаў, 6. гібель шахматнага караля, 7. італьянскі горад, дзе Францыск Скарына атрымаў званне доктара медыцыны, 8. частка адзення для прыкрыцця рукі, 9. тоўстае бервяно, 10. вялікі драпежны нядавіты вуж, 11. напрыклад „Кветка шчасця" Аляксея Туранкова, 12. шавецкая нітка.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — яўрэйская прыказка.

(ш)

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | 2 | 3 | 4 | | | | |
| | | | | | | | 5 | | | |
| | | | | | 6 | | | | 7 | |
| | | | | | 8 | | | | | |
| 9 | 10 | | | 11 | | | | | | 12 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 21 нумара**

Быт, бюро, лаз, лея, хлеў, яр.

Рашэнне: **Хлеб разяўляе любы рот**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 30.06 — 06.07

**(22.03. — 20.04.)** Крыху нервовасці; варта прайсціся, пабегаць, то і фігура паправіцца, і настрой. Увесь ліпень увогуле будзе крыху нервовы. Выкажыся дыпламатыяй, то знойдуцца памочнікі. Умееш лічыць — разлічвай на сябе. Не бяры нічога ў крэдыт. Але ўвогуле — ты ў ліпені выцягнеш шчаслівы „лёс". Не згубі яго. Азірайся за нагодамі.

**(21.04. — 21.05.)** Добра ў „бычых" парах. Да 13.07. можаш зарабіць немалыя грошы. Прапанова, якую атрымаеш, прыбліжыць шанцы на здзяйсненне фінансавых мараў. Калі 2-6.07. будзеш сумнявацца, не вырашай нічога. Аж да 22.07. дом для цябе — прыемнае прыстанішча. У здароўі найважнейшая раўнавага; не кідайся на дыеты і розныя навінкі. Зычлівасць шэфа — прытым да канца месяца; павышэнне, прэмія. Хаця 2-6.07. магчымыя нервы і бяссонне; прымяні ароматэрапію, масажы, купанні.

**(22.05. — 22.06.)** Перад табою вялікія шанцы — не праваронь! 1-4.07. можаш пераканацца, што не ўсе свавякі табе спрыяюць. Добрая форма і яшчэ лепшы настрой (але дбай аб пазваночнік). Але без кампрамісу — ані руш; не ўпірайся на сваім. Добры час на розныя дыеты. Увесь месяц магчымасці падзарабіць.

**(23.06. — 23.07.)** Размовы і шчырыя прызнанні. Добры час, каб пазмагацца за павышэнне; сітуацыя на працы можа цябе крыху трывожыць; абарона сваёй пазіцыі ў фірме можа крыху каштаваць. 1-4.07. нервовасць, спрэчкі, могуць выявіцца твае комплексы. Некалькі спрэчак, шчопаць змагання, крыху кахання — вось увесь твой ліпень.

**(24.07. — 23.08.)** Вольнымі Львамі кіруе Венера (аж да 22.07.)! Дома захопішся мінімалізмам, павыкідваеш шмоцце. Адмоўся ад шкодных рэчываў у ежы і пітве. Добры час на адпачынак і нават уцёкі ад праблем, работы. А на працы будзе нейкая гарачая справа, з адчувальнымі вынікамі. А 2-6.07. штосьці можа вывернуць тваё жыццё дагары нагамі; нават драбніца можа мець сур'ёзныя паслядоўнасці.

**(24.08. — 23.09.)** Проста рай, хаця нават у ім могуць паявіцца цёмныя хмары. Рассяваць будзеш поўны чар перад усімі, хаця падчапіць можаш не вельмі адпаведную асобу. Увесь месяц добрая форма, але не рызыкуй. Дома крыху непаладкаў. У першай палове месяца захопяць цябе прафесійныя справы: пачнуць здзяйсняцца твае вялікія планы!

**(24.09. — 23.10.)** Не спадзявайся больвых рэвалюцый у сардэчных справах. Дома могуць паявіцца праблемы (хто тут пан у хаце?!). Не бяры цяпер на сябе надта адказных заданняў — будзеш стомлены і без вялікіх сіл, можа нават прыхварэеш, асабліва 1-4.07. Затое можаш у ліпені выйсці на прамы шлях у фінансах.

**(24.10. — 22.11.)** Незвычайны збег акалічнасцей у знаёмстве. Але будуць нейкія сямейныя праблемы; нейкая вестка можа цябе зваліць з ног. Мусіш адпачыць у першыя тры тыдні ліпеня. Бо калі не пойдзеш у адпачынак — заездзяць цябе на рабоце, хаця вядома, ад яе будзеш мець прыбыткі.

**(23.11. — 22.12.)** Схопіш вецер у свае ветразі, толькі не забывайся аб тых, што выпалі за борт. Спакойны тыдзень, смела выкарыстай яго на адпачынак. Задбай аб сваё здароўе, паваруўшыся; наступная такая нагода будзе аж у будучую вясну. А ў ліпені праз твае рукі пройдуць вялікія грошы (і хіба не застануцца ў кашальку)...

**(23.12. — 20.01.)** Сэрца заб'е мацней. Чакаюць цябе сямейныя сустрэчы. У першай палове ліпеня можаш парваць са шкоднымі звычкамі. 1-4.07. найлепшы момант на важныя рашэнні; добра ўбачыш усе нюансы. Але стрымайся ад важных рашэнняў у фінансах і рызыкоўных разліках, бо можаш пралічыцца.

**(21.01. — 19.02.)** Хопіць шчасця ў сардэчных справах; можаш здабыць каго захочаш; зычлівa глянь на Рака, Быка або Шалі. На валаску завісчуць твае канікулярныя планы. Можа і часам вецер падзьме табе ў вочы, але зможаш пераказаць гэта ў поспех. 2-6.07. не паддайся правакацыі, бо спрэчка можа прынесці жалюгодныя вынікі.

**(20.02. — 21.03.)** Планеты абяцаюць табе знакамітую форму і крыху горшы настрой. Ці меў бы ён папсаваць табе канікулы? Гарачая атмасфера дома — буры з перунамі, можа з-за дарагой пакупкі (асабліва 1-4 ліпеня).

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7:00 – 18:00. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# На Ушэсце маліліся, спявалі і танцавалі

Святкаванне Узнясення Гасподняга на Гайнаўшчыне, якое ў народзе называюць Ушэсцем, асабліва адзначаецца ў Кленіках, Арэшкаве і Новым Беразове, у якіх цэрквы з такім названнем. Сёлета Ушэсце выпала 13 чэрвеня. У кленіцкай царкве ў час літургіі разам са святарамі і вернікамі маліліся госці з Беларусі, а канкрэтна са Спорава Бярозаўскага раёна. Прыехалі яны на фестываль «Там по маёвуй росі», які сёлета моцна расцягнуты ў часе, і наведалі Кленікі па запрашэнню настаяцеля праваслаўнага прыхода протаіерэя Аляксандра Высоцкага і прыхаджан. Пасля абеду госці хадзілі ў карагодзе па вёсцы, спявалі песні і танцавалі.



Народны фальклорны ансамбль «Жураўка» з Дарафеем Фіёнікам арганізатарам фестывалю „Там по маёвуй росі"

— З ініцыятывай завітаць у Кленікі прыход выйшаў Дар'юш Анхімюк з Дома апекі ў Кожыне, у якім раней мы выступалі з народным рэпертуарам. Мы ўдзячны айцу Аляксандру Высоцкаму, які запрасіў нашых гасцей на абед і заапекаваўся імі, — заявіў галоўны арганізатар студзіводскага фестывалю, старшыня музейнага аб'яднання Дарафей Фіёнік.

Прысутны на святкаванні мітрафорны протаіерэй Рыгор Сасна пасля шкадаваўся, што не спыталі беларускіх гасцей ці не схацелі б яны ўключыцца ў спеў у час літургіі. Пасля адпачынку ў карагодзе па вёсцы Кленікі пайшлі фальклорныя калектывы Спораўскага цэнтра культуры і вольнага часу — народны ансамбль «Жураўка» і дзіцячы ансамбль «Жаўручкі», а таксама частка складу студзіводскай «Жэмэрвы». Спевакі і танцоры затрымліваліся побач лавачак, на якіх сядзелі жыхары сяла са сваімі гасцямі, і спявалі каляндарныя і абрадавыя песні.

— У Кленіках прымаюць нас вельмі гасцінна. Людзі тут вельмі зычлівыя і сардэчныя, цікавяцца нашым спевам. Многа ж людзей сабралася каля святліцы, каб паслухаць нашы песні і паглядзець танцы або нават прыняць у іх удзел, — сказала кіраўнік калектываў «Жураўка» і «Жаўручкі» Валянціна Чайчыц. — Нам вельмі падабаецца музей у Студзіводах, які цудоўна абсталяваны на даўні лад. Формула хадзіць па вёсках са спевам таксама вельмі цікавая. У Споране мы ходзім па вёсцы са спевам на Тройцу і Каляды, а ў час купальскага святкавання распальваем вогнішча і са спевам і танцамі цікава праводзім час. Мы адсвяткавалі ўжо 40-годдзе дзейнасці «Жураўкі». Моладзь з «Жаўручкоў» прывучваем да супольных выступаў са старэйшымі. Цікава іграюць яны на драўляных лыжках і танцуюць. Вучым іх выступаць таксама з народным рэпертуарам.

— Нам тут цікава паглядзець, як людзі жывуць і пагутарыць з мясцовай моладдзю, — заявіла Вольга Казека, удзельніца «Жаўручкоў».

Аляксей Мартысевіч з «Жураўкі» дадаў, што прэзентацыя фальклору перад замежнай публікай — гэта новы выклік, але адначасна і магчымасць паглядзець як жывуць людзі за мяжой. Спевакі і танцоры са Спорава паведамілі, што ў іх вёсцы адбудоўваецца знішчаная ў мінулым царква. Пачалі ўжо у ёй служыць літургіі і таму маюць яны магчымасць маліцца ў сваёй вёсцы.

— Добра, што госці з Беларусі народнымі спевамі і танцамі развесяляюць нашае насельніцтва. У мінулым і нашы людзі так спявалі і танцавалі, бо і мова тут падобная да той са Спорава. Аднак апошнім часам многа памянялася. Сёння старэйшыя людзі вяртаюцца ўспамінамі ў мінулае і радуюцца, — сказаў протаіерэй Аляксандр Высоцкі.

Пасля спеваў па вёсцы госці з Беларусі і гаспадары фестывалю са Студзіводаў сабраліся перад вясковай святліцай. Для публікі былі вынесены крэслы. Частка сабраных слухала канцэрт, стоячы ў цяньку. У Кленіках, якраз насупраць святліцы, знаходзіцца магазін і нават яго кліенты — у асноўным мужчыны, якія ў святочны дзень карысталіся яго прапановай, слухалі выступаючых.

— Формула сённяшняй часткі нашага фестывалю вельмі добрая — яго ўдзельнікі, маліліся ў царкве, прынялі ўдзел ва ўрачыстым абедзе, спявалі і танцавалі. Усё робяць так, як рабілі нашыя продкі ў час прыхадскіх святкаванняў. Ужо даўно не было забавы ў Кленіках, а сённяшняя патанцоўка напамінае традыцыйныя танцы, якія ладзіліся ў нашых сёлах, — сказаў Тамаш Суліма са Студзіводскага музея.



З народнымі танцамі прэзентаваліся перш за ўсё госці са Спорава і мясцовыя танцоры

— Пры маёй маладасці ў Кленіках, дзе было каля трохсот дамоў, на Ушэсце арганізавалі тры патанцоўкі — пасярэдзіне і ў абодвух канцах вёскі, куды сходзілася таксама моладзь з хутароў і суседніх сёлаў. Апошнім часам танцавальныя забавы ў нашай святліцы не ладзіліся, бо моладзі зараз мала. Цяпер у святліцы найчасцей арганізуюцца абеды пасля пахаванняў і ладзяцца сямейныя ўрачыстасці, — сказаў старэйшы жыхар Кленік Мікола Вакулеўскі.

— Я тут адчуваю сябе як дома. Мова тут падобная да нашай, людзі разумеюць словы нашых песень і наш гумар. Жыхары тут адкрытыя на гасцей і добра складваюцца ў нас размовы з мясцовымі, — сказала дырэктар Цэнтра культуры і вольнага часу ў Споране Ніна Пашкевіч.

Дырэктар Метадычнага цэнтра Бярозаўскага аддзела культуры Людміла Кісель выказала радасць з-за ўдзелу ў багатым і цікавым мерапрыемстве, якім з'яўляецца фестываль «Там по маёвуй росі». Госці з-за ўсходняй мяжы запрасілі мясцовых у Спорава на Свята народнага гумару.

— Зараз мала маладых у Кленіках, але і старых меншае. Частка дамоў ужо пустуе. Я яшчэ сваё поле абрабляю, але не ведаю, ці доўга буду гэта рабіць. Трох буйных гаспадароў займаецца ў нас жывёлагадоўляй і ад іх малако забіраюць з панадворкаў. У малачарню прывозяць малако на продаж толькі 15 драбнейшых гаспадароў, — сказаў Аляксандр Місяюк.

Перад танцамі сола, з неапрацаваным фальклорам, выступіла кіраўнік «Жэмэрвы» Анна Фіёнік, якую заказалі як адну з самых лепшых спявачак у Польшчы, выконваючых песні белым голасам. Захапіла яна публіку сваім моцным выступленнем.

— Сённяшняе мерапрыемства — гэта працяг патанцовак з выкарыстаннем даўніх танцаў, якія ладзілі мы раней у Рэпічах, Крывятычах і Збучы. Цікава прэзентуюцца сёння танцоры з польскай спораўскай, падыспанам, ці мікітай, — заявіла Анна Фіёнік.

Спачатку з народнымі танцамі выступілі спораўскія самадзейнікі, а ўспамаглі іх танцоры са Студзіводаў. З часам далучаліся да іх маладышя, а нават і крыху старэйшыя кленічане, якія хутка вучыліся даўнім танцам. Перад святліцай сабраныя станцавалі яшчэ кракавяк, а ў народнай капэле да танцаў падыгралі Дарафей і Максім Фіёнікі і бельскія белгімназісткі Ніка Юрчук і Віёля Боцюк.

— Мы сёлета ладзім фестываль у адпаведнасці з царкоўнымі святкаваннямі. Мы маліліся, спявалі і танцавалі ў час Юр'я, Ушэсця, плануем спевамі і карагодамі адзначыць Тройцу, — сказаў Дарафей Фіёнік.

Мясцовыя жыхары разыходзіліся з адчуваннем цікава і карысна праведзенага часу. Спевакі і танцоры з Беларусі сталі гаварыць пра чарговыя дні фестывалю. На наступны дзень выступілі яны разам з калектывам «Таўкачыкі» Музычнай школы ў Кобрыне, які пад наглядам Наталлі Буневіч і Галіны Воран запрэзентаваўся ў Бельску-Падляшскім. Госці з Беларусі спачатку выступілі ў беларускай школе № 3, пасля ў суседнім Парку каралевы Алены, а на канец — у Доме праваслаўнай культуры, дзе запрэзентавалі таксама народнае рукадзелле, выкананае ў Коледжы мастацтваў у Кобрыне і ў Майстэрні рукадзелля ў Споране. Дзень пазней госці з Беларусі хадзілі ў карагодзе па Шчытах і прымалі ўдзел у адкрыцці ў Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах выстаўкі карцін Анатоля Краўчука з Крывой. Дарафей Фіёнік уручыў мастаку ордэн "За вернасць Бацькаўшчыне". У цэнтры ў Шчытах выступілі згаданыя ўжо госці з Беларусі, а з музыкай перыяду пачаткаў Падляшскага ваяводства запрэзентаваўся гурт «Aqua Profunda» з Мінска.

— Ордэн з чыстага серабра "За вернасць Бацькаўшчыне" праектаваў і выканаў Мікола Кузьміч, той сам мастак, што аднавіў славуты крыж Еўфрасінні Полацкай. Спонсарамі ордэна былі Пётр Божка, Андрэй Сцепанюк, Ігар Лукашук, Тамаш Суліма, Раіса Раецкая і я з Бельска-Падляшскага, Пётр Юшчук з Беластока, Ларыса і Аляксандр Быцко, Уладзімір Чыквін, Вячаслаў Дароцька і Людміла Бунеева з Рэспублікі Беларусь. Спачатку Ларыса і Аляксандр Быцко выйшлі з ідэяй узнагародзіць такім ордэрам аднаразова толькі Міколу Тарасюка са Стойлаў на Брэстчыне, народнага мастака, вельмі заслужанага сваёй Бацькаўшчыне. Пасля паўстала ідэя прысвойваць такі ордэн штогод адной асобе пажылога ўзросту, якая заслужылася сваёй Бацькаўшчыне. Падумалі мы, каб такім мінімальным узростам было 80 гадоў. Анатоль Краўчук, чалавек моцна заслужаны нашай Бацькаўшчыне, скончыў 90 гадоў, — заявіў Дарафей Фіёнік.

Частка фестывалю, прымеркаваная да святкавання Узнясення Гасподняга, закончылася ў нядзелю выступамі ў Студзіводскім музеі, дзе адзначалася таксама 500-годдзе Падляшскага ваяводства. Побач спевакоў і танцораў з Беларусі, сярод якіх быў гурт «Aqua Profunda», выступілі дзеткі з калектыву «Лянок» Непублічнага прадшколля імя святога дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім, якія запрэзентавалі пастаноўку «Бельская хроніка» аб гісторыі Прачысценскай царквы ў Бельску.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

ISSN 0546-1960